ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (41) жнівень 2014 год
CATHOLICNEWS.BY



# Крылы душы

## У Браславе прайшла IX Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі

Матэрыял чытайце на старонцы 11

**На здымку:** айцец Аляксандр Жарнасек моліцца аб духоўным і фізічным аздараўленні беларускай моладзі.




## Гэты чароўны Лучай...

Матэрыял чытайце на старонках 4 – 5



## Гісторыя пра цудоўнае аздараўленне

Матэрыял чытайце на старонцы 8

# Якім павінен быць біскуп?



**На здымку:** Папа Францішак удзяляе біскупскія пасвячэнні.

**Ні для кога не сакрэт, што стаўленне да хрысціянства, да Касцёла, да вернікаў людзей, якія знаходзяцца па-за Касцёлам, у значнай ступені вызначаецца паводзінамі і жыццём саміх хрысціянаў. Тое, як мы ставімся да іншых, як выконваем свае абавязкі, наколькі нашае жыццё адпавядае нашай веры, сведчыць пра тое, ці ёсць нешта вартае ў нашай веры.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Яшчэ большая ўвага надаецца паводзінам тых, хто стаіць на чале люду Божага – святарам і асабліва біскупам. Асоба біскупа важная яшчэ і тым, што на яго будуць раўняцца яго-ныя памочнікі ў справе служэння – святары. Ад стаўлення біскупа да святароў залежыць таксама стаўленне святароў да сваіх абавязкаў, што ў сваю чаргу ўплывае на стаўленне вернікаў да Касцёла.

Ужо з апостальскіх часоў да асобы біскупа выстаўляліся пэўныя патрабаванні. Апостал Павел навучаў: *"Належыць, каб біскуп быў беззаганны як распарадчык Божы, не горды, не гняўлівы, не п'яніца, не авантурнік, не сквапны да нажывы, але гасцінны, ласкавы, сумленны, справядлівы, святы, старанны, які трымаецца праўдзівае навукі, вернай слову, каб здатны быў ён схіляць да праўдзівай навукі і нават тых, якія выступаюць супраць"* (Ціт. 1, 8-10). І далей, ва ўсе эпохі існавання Касцёла, як святыя ў сваіх творах, так і афіцыйнае вучэнне касцельных уладаў вызначалі і дбалі пра адпаведнае аблічча чалавека, якога Пан кліча весці Яго статак да Божага Валадарства.

## Пастыры з пахам авечак

Цяперашні Папа Францішак у гэтыя складаны для веры і Касцёла час таксама мае сваё бачанне таго, якім павінен быць біскуп. Прэфект Кангрэгацыі па справах біскупаў кардынал Марк Уэле ў інтэрв'ю ватыканскай газеце "L'Osservatore Romano" падзяліўся тымі крытэрыямі, якімі Святы Айцец кіруецца пры прызначэнні новых біскупаў.

На думку Папы, біскуп павінен быць "пастырам з пахам авечак, што значыць, блізкім да людзей". Ён не можа мець псіхалогіі "валадара", але павінен быць айцом і братам, міласэрным і міралюбівым. Біскуп, паводле Папы, "ведае, як быць наперадзе статка, каб паказаць шлях, пасярод статка, каб трымаць яго разам, за статкам, каб ніхто не застаўся ззаду".

Прызначаючы новых біскупаў, Святы Айцец дбае пра тое, "каб даць дыяцэзіям пастыраў, гатовых спрыяць развіццю душпастырства, блізкага да чалавека. Яны павінны ўмець аб'яднаць або бурацыяналізаваць сілы, каб даць новы апостальскі імпульс касцельным супольнасцям, а не замкнуцца і скардзіцца на тое, што не атрымліваецца. Патрэбныя пастыры, якія з Божай дапамогай змогуць даць Касцёлу місійны дынамізм не для таго, каб раствараць у свеце або практыкаваць "рэлігійны турызм", але прывесці людзей да Касцёла", – перадае словы кардынала Беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё.

## Святы Дух у дзеянні

Параўноўваючы бачанне асобы біскупа, якое мае Папа Францішак, з бачаннем яго папярэдніка Бэнэдыкта XVI, можам прасачыць цудоўную паслядоўнасць і пераемнасць. У свой час Папа Бэнэдыкт XVI адзначаў, што біскупы павінны быць "людзьмі, чый інтарэс скіраваны да Бога, бо толькі тады яны будуць па-сапраўднаму цікавіцца людзьмі". "Біскуп павінен быць чалавекам, які клапоціцца пра людзей, якога кранулі іх праблемы. Павінен быць чалавекам для людзей. Але ён можа быць па-сапраўднаму такім толькі тады, калі з'яўляецца захопленым Богам, калі для яго туга па Богу стала тугой па Яго стварэнню, чалавеку. Біскуп не павінен быць тым, хто проста выконвае свае абавязкі і не хоча нічога іншага". Таксама Бэнэдыкт XVI падкрэсліваў важнасць для біскупаў адвагі і веры. І гэтая пераемнасць і адзінадумства двух папаў сведчыць пра тое, што такім хоча бачыць біскупа Бог, адкрываючы праз Святога Духа Сваю волю Святому Айцу, ад якога залежыць выбар асобы на гэтае служэнне.

***Ад стаўлення біскупа да святароў залежыць таксама стаўленне святароў да сваіх абавязкаў, што ў сваю чаргу ўплывае на стаўленне вернікаў да Касцёла***

Наша краіна і наш Касцёл таксама атрымалі ад цяперашняга Папы трох новых біскупаў. І безумоўна, нас цешыць тое, што асобы новых беларускіх біскупаў адпавядаюць згаданым крытэрыям. Таму мы, молячыся за іхняе служэнне, разам з імі будзем развіваць "місійны дынамізм" Касцёла і набліжаць веру да занядбанага атэізмам беларускага народа.

# Імша ў шпіталі

**У пацыентаў Віцебскага клінічнага шпіталя (вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 37) ёсць магчымасць прыняць удзел у Святой Імшы.**

Эўхарыстыя адпраўляецца кожную суботу ў 19.00 у капліцы Маці Божай Лурдскай. Капліца знаходзіцца каля аддзялення рэабілітацыі побач з магазінам "Пінгвін".

**Усе ахвотныя могуць запрасіць святара з сакрамантальнай паслугай у палату, патэлефанаваўшы на нумар +375336487471.**

# Дапамога святарам з усходу Беларусі

**Дарагія сябры!**

У "Каталіцкім Весніку" дзейнічае рубрыка "Газетная закрыстыя", праз якую можна дасылаць інтэнцыі св. Імшы. Для гэтага дастаткова выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы. Кожная Св. Імша будзе адпраўлена асобна.

Затым запоўнены бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе Св. Імшы ў вашых інтэнцыях?

Гэта робяць беларускія святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій. Кожнаму, хто дасылае інтэнцыю і ахвяраванне, высылаецца ліст з падзякай і пацвярджэнне адпраўленай Св. Імшы.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце маладых беларускіх святароў на ўсходзе краіны.

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу. Зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы на нумар: +375297365307

Даслаць ахвяраванне можна па наступным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Вялікі дзякуй тым, хто ўжо даслаў у рэдакцыю запоўненыя бланкі і ахвяраванні. Гэта істотная падтрымка для святароў з усходу краіны.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |
| **Святар, які адправіў Св. Імшу** *(запаўняецца святаром)* | |




# Звычайная святасць: у Навагрудку ўспаміналі сясцёр-мучаніц

**31 жніўня – 1 ліпеня назарэтанкі святкавалі 71-ю гадавіну мучаніцкай смерці с. Стэлы і яе дзесяці паплечніц.**

Урачыстасці распачаліся св. Імшой на месцы расстрэлу блаславёных, якую ўзначаліў кс. біскуп Юзаф Станеўскі. Гамілію прамовіў Пінскі ардынарый кс. біскуп Антоні Дзям'янка.

На літургіі прысутнічала больш за 150 чалавек, сярод якіх 47 – пілігрымы, якія прыбылі з пятай пешай пілігрымкай Гродна-Навагрудак.

Пазней гурт "РЫБЫ" даў невялічкі канцэрт праслаўлення. Традыцыйна падчас спеваў удзельнікі давалі сведчанні.

Пасля "РЫБаў" адбылася канферэнцыя а. Вячаслава Пялінка пад назвай "Звычайная Святасць". Святар звярнуў увагу на "прыбіранне святых", альбо ідэалізацыю сваіх апекуноў і падкрэсліў, што "мы аздабляем нашых святых так, што яны падаюцца амаль лепшымі за Езуса".

"Хрыстос у момант смерці і Той плакаў і звяртаўся да Айца: "Чаму ты мяне пакінуў?", а мы кажам, што нашыя святыя з радасцю памiралі", – дадаў а. Вячаслаў.

Святар з Глыбокага сказаў, што наш боль мусіць быць болем жанчыны, якая мае нарадзіць, бо тая нараджае і ўжо больш не мае гэтага болю. "Кожны праўдзівы боль ператворыцца ў радасць", – дадаў ён.

Падсумоўваючы сказанае, а. Вячаслаў выказаў меркаванне, што "трэба не бічаваць паслухмянасцю, але наследаваць паслухмянага Хрыста. Мы праслаўляем блаславёных сясцёр не за тое, што яны былі ідэальныя, бо яны такімі не былі. Яны з'яўляюцца прыкладам наследавання Хрыста, прыкладам нараджэння, а не мучанняў сябе".

Адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту правёў гурт "РЫБЫ". Пасля адарацыі адбыўся паказ фільма пра дзейнасць сясцёр-назарэтанак у Навагрудку.

Урачыстую св. Імшу, якая пачалася ў прыкладны час расстрэлу блаславёных назарэтанак, узначаліў Пінскі ардынарый кс. біскуп Антоні Дзям'янка.

Падчас гаміліі іерарх звярнуў увагу на прастату вялікага ўчынку сясцёр. Ён падкрэсліў, што "мы маем вялікі гонар мець сваіх блаславёных у дыяцэзіі".

*Арцём Ткачук, grodnensis.by*

*Святар звярнуў увагу на "прыбіранне святых", альбо ідэалізацыю сваіх апекуноў і падкрэсліў, што "мы аздабляем нашых святых так, што яны падаюцца амаль лепшымі за Езуса"*




**На здымку:** біскуп Юзаф Станеўскі з моладдзю.



**Фотафакт**

На плённую працу камбайнёраў Глыбоччыны благаславіў айцец Вальдэмар Куява, францішканін з парафіі Беззаганнага Зачацця Панны Марыі ў в. Удзела. Ён таксама асвяціў тэхніку землеробаў. Святар спецыяльна дзеля гэтага наведаў раённае свята "Зажынкі", якое праходзіла ў гаспадарцы "За Радзіму" ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці.

*Фота: vg-gazeta.by*

# "Беларуская Кальварыя" ў Мядзелі

У нашай парафіі Маці Божай Шкаплернай у Мядзелі пачата абнаўленне "Беларускай Кальварыі". Гісторыя яе пачалася яшчэ ў 18 стагоддзі, але пасля лістападаўскага паўстання яна была знішчана. У 19 стагоддзі айцы-кармеліты адбудавалі "Крыжовы шлях". Пілігрымы прыходзілі нават з Вільні. Пасля вайны 1941-1945 гг. усё было зноў знішчана, касцёл закрыты. І толькі ў 90-х гадах 20 стагоддзя вернікі нашай парафіі змаглі адрамантаваць наш касцёл. У 1995 годзе па просьбе парафіян на былой "Кальварыі" былі пастаўлены драўляныя крыжы. Пад кіраўніцтвам айцоў-кармелітаў "Кальварыя" была адкрыта. Вернікі сталі збірацца 2 разы на год – у ліпені і верасні, каб з малітвай прайсці "Крыжовы шлях". На гары "Трох крыжоў" цэлебруецца святая Імша, на якую прыязджае шмат ксяндзоў і нават біскуп, які ўдзяляе сакрамант бежмавання. Людзі духоўна ўзбагачаюцца.

З дазволу мясцовай улады, паводле праекта, аднаўленая "Кальварыя" будзе складацца з 14 капліц, зробленых з цэглы, каменю і дрэва, з выявамі Крыжовага шляху. У гэтым годзе ўзведзена ўваходная брама і будуць будавацца капліцы – наколькі хопіць сродкаў. Усе работы вядуцца за ахвяраванні парафіян і іншых дабрачынцаў. Кіруюць працай айцы-кармеліты: а. Павел Лаліта, а. Юрый Кулай, бр. Андрэй Журко.

Хто бывае ў Нарачанскім краі, не забудзьце наведаць нашу "Кальварыю" (яна адзіная ў Беларусі). Ад яе наведвання атрымаеце Божую ласку і душэўную асалоду.

***Галіна Шукела** – парафіянка парафіі Маці Божай Шкаплернай, падпісчыца "Каталіцкага Весніка", г. Мядзел*

# Новыя пераклады Біблії

**Поўны тэкст Біблії быў перакладзены яшчэ на сем моў. Трыма з іх карыстаюцца жыхары Афрыкі, двума – Азіі, адной – Лацінскай Амерыкі і адной – Еўропы. Пра гэта паведаміла нямецкае Біблійнае таварыства 15 ліпеня 2014 г. у Штутгарце, спасылаючыся на Сусветную асацыяцыю.**

Біблію цяпер можна прачытаць на наступных мовах: мандзінка, якой карыстаюцца ў Гамбіі; малі – у Гвінеі-Бісау і Сенегале; крыа – у Сьера-Леонэ; шылук – у Паўднёвым Судане. Двума новымі перакладамі Біблii змогуць карыстацца народы ў Індыі і Малайзіі, якія гавораць на мове какбарок – у штаце Трыпура, і мурут – на Барнэа. Таксама поўны тэкст Святога Пісання даступны на мове народа тоба, які жыве на поўдні Балівіі і поўначы Аргенціны. Біблію пераклалі яшчэ на ўдмурцкую, якая належыць да фіна-вугорскай групы моў.

Святое Пісанне цяпер цалкам перакладзена на 511 моў. Пра гэта паведаміла Біблійнае таварыства. Новы Запавет даступны на 1295 мовах. Асобныя часткі Біблii можна прачытаць на яшчэ 844 мовах.

Усяго, паводле ацэнак даследчыкаў, у свеце існуе каля 6900 жывых моў.

*Паводле матэрыялаў radiovaticana.va*

**Удакладненне:** У нумары 7(40) у артыкуле пра юбілей касцёла ў Параф'янаве была дапушчана памылка: замест "айцец Раман працаваў у Параф'янаве 12 гадоў" трэба чытаць "айцец Тадэвуш працаваў у Параф'янаве 12 гадоў". Таксама з тэксту артыкула можна зразумець, што святар Дзмітрый Пухальскі таксама працаваў у Параф'янаве, хаця ён там толькі нарадзіўся. Прыносім свае прабачэнні чытачам.

# Гэты чароўны

**Парафіяльны адпуст у гонар святой Ганны адбыўся ў Лучаі 26 ліпеня. Свята, прысвечанае ўспаміну бабулі Езуса, маці Найсвяцейшай Панны Марыі, сабрала вернікаў, якія прагнулі паўдзельнічаць ва ўрачыстай св. Імшы разам з біскупам Алегам Буткевічам.**

**Алена Колтан-Клімза**, *тэкст;*
*фота: luchaj.by*

Былі запрошаны святары: ксёндз-дэкан Раман Мурзіч з Параф'янава, ксёндз-пралат Мечыслаў Янчышын з Глыбокага, іншыя святары з суседніх парафій, з Мінска і нават са Славакіі. Асаблівае месца сярод запрошаных належала славутаму зямляку, сыну Лучайскай зямлі, сакратару Апостальскай нунцыятуры ў Казахстане, капелану Яго Святасці кс. др. Аляксандру Рагіню. Дасягнуўшы такіх вышыняў у маладым узросце, ён з'яўляецца гонарам не толькі Лучая, але і ўсёй краіны.

За гадзіну да святочнай Літургіі вернікі адаравалі Пана Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце перад бакавым алтаром святой Ганны. Мясцовая моладзь чытала разважанні, прысвечаныя апякунцы свята: «Па іх пладах – пазнаеце дрэва», «Святая Ганна прывіла любаму дзіцяці тое, што мела сама – любоў да цноты, чулае сэрца, павагу да Бога, задаткі боязі Божай і дзявочай сарамлівасці, глыбокую павагу да Божага Аб'яўлення, неадольную цягу да самотнасці, агіду да прынадаў гэтага свету і шчырую пакору». Адарацыйныя спевы чаргаваліся з разважаннямі пра пакліканне хрысціянскай маці. Пра тое, як трэба разумець, што дзіця з'яўляецца ўласнасцю Божай. Святая, вымаліўшы Яго ў неба палымянымі малітвамі, начным чуваннем, спавітае міласцінай, ахвяравала таму ж Богу, ад Якога атрымала. Напрыканцы прагучала літанія да святой Ганны.

Святая Імша распачалася з прывітання шаноўнага госця вельмі каларытна. У нацыянальных строях найпрыгажэйшая маладая пара Лучая хлебам-соллю сустрэла біскупа, выказваючы пажаданне, каб Пастыр дыяцэзіі стаў яшчэ і братам для лучайскіх вернікаў. А ксёндз-пробашч Мікалай Ліпскі ва ўступным слове пажадаў, каб прысутныя на фэсце адчувалі сябе так утульна, як быццам гасцяць у сваіх родных дзядуляў і бабуляў. Дарэчы, святар сам узрастаў у веры менавіта тут, прыязджаючы пагасціць да сваёй бабулі Міхаліны, якая была сапраўднай хрысціянкай. Напэўна, яна сваімі палымянымі малітвамі выпрасіла ў Бога дар пакліканьня для свайго ўнука.

Сакрамант канфірмацыі прынялі сёлета 27 вернікаў рознага ўзросту. Звяртаючыся да прысутных падчас гаміліі, біскуп Алег зазначыў, як з павагай трэба ставіцца да старэйшых, да бабуляў і дзядуляў. Бо менавіта яны далі нам не толькі жыццё, але і дзеляцца з намі яшчэ і досведам, якога не хапае маладому пакаленню. Старэйшыя баранілі веру, часам аж да праліцця крыві. Ардынарый звярнуў увагу, што неабходна ведаць свой радавод, каб «людзьмі звацца».





# Лучай...

Працэсія з Найсвяцейшым Сакраментам стала заканчэннем святочнай Літургіі. Пасля вернікі яшчэ раз сабраліся побач з касцёлам, каб прыняць удзел у асвячэнні двух барэльефаў, усталяваных на добраахвотныя ахвяраванні, і фігуры апостала Філіпа – вырабленай на сродкі парафіянкі з Шаркаўшчыны як дарпадзяку за аздараўленне.

З кожным фэстам Лучай прыгажэе, паступова, спакваля ператвараецца ў «жывую Біблію» прыкасцельная тэрыторыя. Мала хто ведае, што большасць будаўнічых работ выканана працавітымі рукамі таты ксяндза Мікалая. Дзякуючы яго руплівай працы з'явіліся новыя дарожкі, капліца святога Францішка, адраджаецца агародка. А напярэдадні фэсту пабудавана цудоўная альтанка і аднаўлена ўваходная брама.

**Лучай прыгажэе, паступова, спакваля ператвараецца ў «жывую Біблію» прыкасцельная тэрыторыя**

На святце выступілі ўжо добра знаёмыя Лучаю выканаўцы: гурт «Рэха» з Мінска, узорны дзіцячы калектыў «Маленькая фея» з Шаркаўшчыны, моладзь з Лучайскай і Варапаеўскай парафій, гурт «Laudans». Упершыню быў запрошаны гурт «Сейбіт». Сапраўдным хэдлайнерам (запамінальным момантам) стаў выступ акардэаніста-віртуоза з Мінска Дзмітрыя Корсака. Сваім граннем ён неверагодна "завёў" публіку. Шмат хто з прысутных стаў танчыць пад музыку выдатнага выканаўцы. Яго канцэрт плаўна перайшоў у незабыўнае фаер-шоу, якое зачаравала гледачоў. Пасля быў квяцісты феерверк пад акампанемент акардэона.



**На здымку:** сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Казахстане ксёндз-прэлат Аляксандр Рагіня гутарыць з парафіянамі.

Раз'язджаліся госці пад традыцыйны для Лучая паланэз шчаслівыя, крыху стомленыя, ураджаныя прыгажосцю, гасціннасцю, утульнасцю свята. Лучайскія святы набываюць усё большы і большы размах дзякуючы цудоўным арганізатарскім здольнасцям ксяндза-пробашча. Адна з добрых традыцый лучайскіх фэстаў – знаходзіцца ўвесь суботні вечар на святце аж да кульмінацыі (дарэчы, гэта заўсёды прыемная неспадзяванка), каб потым узгадваць цудоўныя моманты і з захапленнем расказваць: «Умеюць жа ў Лучаі і маліцца і весяліцца!»

**Наступнае свята плануецца 24 жніўня – падчас валанцёрскага летніка, на які парафія запрашае ўсіх ахвотных, а ў першую чаргу – студэнтаў, школьнікаў і настаўнікаў перад пачаткам навучальнага года. Лучай Вас чакае, дарагія сябры!!!**

# Там, дзе пралілася

**У Росіцы, што ў Верхнядзвінскім раёне, 1 – 2 жніўня адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя ўшанаванню памяці блаславёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;*
**Зміцер Лупач, Кацярына Лаўрыненка**, *фота*



**На здымку:** Святую Імшу адпраўляе ксёндз Вячаслаў Барок.

## "Зімовы цуд"

Нагадаю коратка чытачам, што гэта за блаславёныя. Падчас апошняй вайны ў лютым 1943 года нямецкія карнікі праводзілі антыпартызанскую аперацыю пад назвай "Зімовы цуд". У ёй удзельнічала 7 латвійскіх батальёнаў, а таксама ўкраінская і літоўская роты СС. Карнікі ставілі за мэту знішчыць мясцовае насельніцтва, каб пазбавіць партызан падтрымкі.

16 – 18 лютага гэта навала дайшла і да Росіцы. За тры лютаўскія дні карнікі цалкам спалілі вёску і 1528 яе жыхароў. У агні загінулі тады і два каталіцкія святары – Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Фашысты прапанавалі захаваць ім жыццё, але яны адмовіліся пакінуць сваіх парафіян і разам з імі прынялі пакутніцкую смерць.

У памяць аб тых падзеях у Росіцы два разы на год – у лютым і жніўні – успамінаюць блаславёных мучанікаў Антонія і Юрыя. Росіца так і не здолела вярнуць сабе даваенную колькасць жыхароў, а цяпер насельніцтва тут змяншаецца, як і ў цэлым па краіне. Зараз у Росіцы жыве каля двухсот чалавек, таму ў дні ўрачыстасцяў колькасць людзей у тут узрастае ў некалькі разоў.

## Мой шлях у Росіцу

Сярод моладзі, і не толькі моладзі, з кожным годам набываюць папулярнасць пешыя пілігрымкі ў Росіцу. Вось і сёлета сюды прыйшлі пешыя пілігрымкі з Барысава, Друі і Полацка, а таксама прыбыла велапілігрымка з Жодзіна.

Вернікі з Барысава прайшлі каля трохсот кіламетраў, да іх далучыліся і глыбоцкія парафіяне. Шмат хто з іх далучаецца не ў Глыбокім, а едзе ў Барысаў, каб адтуль разам з усімі прайсці гэты шлях.

Сёлета я таксама хацеў да іх далучыцца, але абставіны на працы не дазволілі. Тады я вырашыў праехаць самастойна гэты шлях на веласіпедзе. Ніколі раней не ездзіўшы на такія вялікія адлегласці, я хваляваўся: ці змагу гэта зрабіць? Ды і знаёмыя казалі мне, што не вытрымаю такой дарогі. Але з Божай дапамогай усё магчыма.

Выехаўшы а 8 гадзіне раніцы з Глыбокага, я ў 6 гадзін вечара дабраўся да Росіцы.

Дарога далася мне нескладана, калі не лічыць апошніх кіламетраў, калі я ўжо выехаў з Сар'і. Сапраўды адчувалася стома, балела цела, але калі я пабачыў вежы росіцкага касцёла, да мяне як бы вярнулася другое дыханне. Я быў шчаслівы, што паспеў на Імшу для пілігрымаў, спазніўшыся толькі на хвілін дзесяць – пятнаццаць.

## "Свет будзе жыць, калі ёсць яшчэ такія людзі"

Што мяне адразу ўразіла ў касцёле, дык гэта тое, што там было шмат моладзі. Такое нячаста можна пабачыць у беларускіх святынях, дзе часцей большасць вернікаў – людзі сталага ўзросту.

На пачатку ўрачыстасцяў да пілігрымаў звярнуўся пробашч Росіцкай парафіі айцец Чэслаў Курэчка MIC. Ён адзначыў: *"Глядзеў я на вашыя твары – радасныя, прыгожыя, пабожныя – і падумаў, што наш свет будзе жыць, калі ёсць яшчэ такія людзі". Далей ён адзначыў, як прыгожа выглядаюць маладыя хлопцы, што ў XXI стагоддзі пабожна стаяць на каленях каля алтара. "Гледзячы на гэту моладзь, – падкрэсліў святар, – я ўпэўнены, што касцёл у Беларусі будзе жыць".*



Што мяне адразу ўразіла ў касцёле, дык гэта тое, што там было шмат моладзі.

## Зрабіць правільны выбар у жыцці

Імшу для пілігрымаў узначаліў пробашч Жодзінскай парафіі Міхаіл Цвячкоўскі MIC. У сваім слове да пілігрымаў ён узгадаў тэму выбару, адзначыў, што менавіта ў гэтым касцёле адбываўся выбар ксяндзоў Антонія і Юрыя.

Бог даў чалавеку права выбіраць, але часам ад гэтага права залежыць яго далейшае жыццё. Росіцкія пакутнікі таксама мелі гэты выбар: яны

# бязвінная кроў...

маглі захаваць сабе жыццё, але ці змаглі б тады яны спакойна жыць са сваім сумленнем, і як бы цяжка было ім глядзець у вочы іншым вернікам? Таму яны вырашылі да канца раздзяляць са сваімі вернікамі іх лёс. *"Таму,* – падкрэсліў святар, – *росіцкі касцёл – гэта асобае месца, дзе мы павінны вучыцца рабіць правільны выбар у жыцці".*

Пасля Імшы пілігрымы выправіліся на вячэру, якую ў гэтым годзе арганізавалі за касцёлам. Там былі расстаўленыя свежазробленыя лаўкі і сталы. Нагогул хацелася б падзякаваць айцу Чаславу за клопат, які ён праяўляе да росіцкіх пілігрымаў.

## Абараніць сям'ю і дзяцей

Пасля вячэры росіцкія ўрачыстасці працягваліся:– грэка-католікі выканалі Акафіст, вернікі распачалі падрыхтоўку да споведзі. Споведзь праходзіла адначасова ў некалькіх месцах, і ахвотных ачысціць сваю душу ад грахоў было шмат.

Між тым у касцёле распачалася фармацыйная сустрэча пад назвай "А слова сталася целам". Такія сустрэчы плануецца зрабіць тут традыцыйнымі. На гэты раз Росіцу наведала сям'я Наталлі і Івана Пузанавых, якія прадстаўляюць пралайфаўскі рух – фонд "Адкрытыя сэрцы".

Паколькі ў касцёле сабралася шмат моладзі, сужэнцаў, значная ўвага была ўдзелена праблемам сучаснай сям'і. Асобна гаварылася пра аборты, якія інакш можна назваць "забойствам".

Выступоўцы адзначылі Росіцу як асаблівае месца, дзе пытанні абароны чалавечага жыцця ставяцца найбольш востра.



Малітвы ў касцёле працягваліся ўсю ноч.

## Яны асаблівым чынам шукалі вечнасці

Апоўначы распачалася галоўная Імша росіцкіх урачыстасцяў. Яе ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Ардынарыя на пачатку Літургіі прывітаў росіцкі пробашч айцец Чэслаў Курэчка. Ён адзначыў, што ксёндз Алег, яшчэ будучы простым святаром, вадзіў сюды пілігрымкі. Айцец заўважыў, што біскуп Алег і зараз часта бывае ў Росіцы, прычым не толькі як іерарх, але і як просты вернік, каб аднаму памаліцца ў цішыні святыні, лежачы крыжам перад абразом росіцкіх благаславёных.

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег узгадаў тыя страшныя лютаўскія дні 1943 года і папрасіў прысутных уявіць, аб чым тады думалі людзі, якія ведалі, што заўтра павінны памерці. *"Яны,* – адзначыў святар, – *не думалі аб нечым матэрыяльным, яны асаблівым чынам шукалі вечнасці".*

Таму, знаходзячыся ў гэтым касцёле, дзе сотні людзей са сваімі святарамі чакалі смерці, мы павінны крыху інакш паглядзець на сваё жыццё, акрэсліць для сябе, што для нас ёсць галоўным. *"І няхай жа ахвяра росіцкіх пакутнікаў дапаможа нам знайсці праўдзівы адказ, так, як яго знайшлі бласлаўлёныя пакутнікі, якія былі ўпэўненыя, што, трацячы сваё жыццё, яны не трацяць свайго існавання,"* – падкрэсліў віцебскі ардынарый.

Пасля Імшы вернікі з запаленымі паходнямі і свечкамі накіраваліся да месца пакутніцкай смерці бласлаўлёных разам са сваімі прыхажанамі. Стоячы на другім баку возера, я назіраю, як вялікая вогненная рака плыве па дарозе ад касцёла. Вернікі памаліліся на месцы трагедыі і пакінулі каля крыжа свае свечкі.



## "Выпрабаванні – праверка нашай вернасці"

Малітвы ў касцёле працягваліся ўсю ноч. Хтосьці адпачываў, яго замяняў іншы. Шмат хто з пілігрымаў адпачываў проста ў сценах святыні. Раніца ў касцёле распачалася спевам гадзінак да Маці Божай. Потым грэка-каталіцкія святары адслужылі Імшу паводле ўсходняга абраду. Для вернікаў прайшлі дзве канферэнцыі: "Сустрэча з Божым словам" і "Сустрэча з Касцёлам".

Заключную Імшу, якая адбылася апоўдні 2 жніўня, правёў ксёндз Вячаслаў Барок, гамілію прамовіў прадстаўнік айцоў-марыянаў а. Тадэвуш Бычкоўскі MIC. У ёй ён закрануў пытанне, ці змаглі б мы паўтарыць подзвіг бласлаўлёных. Напэўна, кожны з нас не раз задаваў сабе такое пытанне, – адзначыў святар. Не кожны чалавек здольны быць пакутнікам, але з Божай дапамогай можна прайсці ўсе выпрабаванні. Яны – *"праверка нашай вернасці. У цярпеннях у нас апускаюцца рукі. У такія моманты нам нічога не застаецца, як толькі яшчэ раз паглядзець на крыж і Укрыжаванага Хрыста на ім".*

## Росіца запрашае

Госці Росіцы адзначаюць, як папрыгажэла вёска ў апошнія гады. У гэтым вялікая заслуга пробашча айца Чэслава.

Святар жа ў сваю чаргу кажа, што толькі дзякуючы падтрымцы вернікаў, іх працы, ахвярам, узаемапаразуменню з мясцовай уладай сталася магчымай такая прыгажосць. *"Я хацеў пасадзіць тут ніцыя вербы як сімвал смутку,* – кажа айцец Чэслаў, – *дык не прыжыліся. Відаць, бласлаўлёныя не хацелі, каб мы шмат сумавалі, яны разам з намі з нябёсаў радуюцца таму, як расквітнела Росіца".*

Я спытаў у некалькіх вернікаў, сярод якіх былі госці з Мінска і Рыгі, а таксама жыхары навакольных вёсак, што іх прыцягвае ў Росіцу. Усе адзначаюць, што гэта асаблівае месца, тут пралілася бязвінная кроў, гэта вельмі намоленае месца, бо толькі перад смерцю чалавек можа шчыра маліцца, і гэта месца прыцягвае людзей зноў і зноў. *"Той, хто тут пабываў, абавязкова будзе сюды вяртацца",* – адзначылі мае суразмоўцы. Для сябе я таксама вырашыў, што ў наступным годзе, калі Бог дазволіць, зноў наведаю гэта месца.

# Гісторыя пра Божую волю



## і чыстае сэрца

**Пра цуд аздараўлення ў сям'і Абрамавых я даведаўся выпадкова падчас гутаркі са святарамі ў Тракелях на ўрачыстасцях у гонар Маці Божай Тракельскай. Унікальны выпадак цяжкай хваробы маладога чалавека і выразны цуд, які зрабіў Бог у ягоным жыцці, зацікавілі мяне не толькі як рэдактара газеты, але як і душпастыра. І таму я накіраваўся ў Ліду, дзе жывуць маці і сын – Ірына і Яўген Абрамавы.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

На пачатку нашай гутаркі лёгка было заўважыць сціпласць і няёмкасць маіх суразмоўцаў. Нічога дзіўнага. Не кожны дзень да цябе прыязджае журналіст, якому трэба даць сведчанне свайго жыцця. Пасля знаёмства я задаў першае пытанне, што непасрэдна датычылася самога цуду.

### Медыцынскі прысуд

**– Спадарыня Ірына, як сталася, што Ваш сын захварэў?**

– Гэта было нечакана для нас усіх. Кісту на сэрцы Жэні лекары знайшлі ў сакавіку 2014 года, калі ён лячыў запаленне лёгкіх. Памеры гэтай кісты былі вельмі вялікімі. На той час – 4 на 5 см. А пазней хвароба стала хутка прагрэсаваць. Ужо ў красавіку памеры нарасту на сэрцы былі 8,5 х 7,5 см і таўшчыня – 3 см.

**– Захворванне гэтае з'явілася раптам ці яно было раней у сына і проста сябе не праяўляла?**

– Лекары меркавалі, што кіста была ад нараджэння. Але Жэню ніколі не даймаў ніякі боль. Ён хадзіў на заняткі па фізкультуры, яму падабалася прымаць удзел у рыцарскіх турнірах, насіў даспехі нават. Ён рос, як усе дзеці. Нічога не ўказвала на хваробу аж да вясны гэтага апошняга навучальнага года ў школе. Тады кіста на сэрцы выпадкова была знойдзена ў выніку абследавання ў Гродзенскім абласным шпіталі.

Наступнае пытанне задаю ўжо сыну Ірыны:

**– Жэня, але ж сімптомы ўсё роўна павінны былі паявіцца?**

– Так, – адказвае ён. – Ужо калі знайшлі гэтую кісту на сэрцы, я перастаў займацца спортам і пачаў адчуваць цяжар у грудзях. Было цяжка дыхаць. Мы пачалі кансультавацца ў лекараў. Медыкі сказалі, што адзінае выйсце – гэта аперацыя. Яны былі здзіўленыя, што кіста вырасла ажно да такіх памераў. Звычайна яна бывае меншай і не турбуе сваім ростам. А таксама вельмі рэдка бывае размешчана на сэрцы.

Тут спадарыня Ірына ўстае і паказвае мне копію медыцынскага заключэння. Яно з Дзіцячага кардыёхірургічнага цэнтра РНПЦ "Кардыялогія" ў Мінску. Дакумент складзены 17 красавіка 2014 года. З яго вынікае, што Абрамаву Яўгену Вітальевічу пастаўлены дыягназ "Кіста перыкарда". Медыцынскае заключэнне паведамляе: *"Вдоль задней стенки ЛЖ, начиная со средней трети и до верхушки, лоцируется образование 7.5 на 8.5 см гипоэхогенное с включениями. Задняя стенка несколько прогибается в полость ЛЖ. Показана консультация детского хирурга для решения вопроса о дальнейшей тактике. При наличии показаний для оперативного лечения – госпитализация в детский кардиохирургический центр".*



Сухія словы медзаключэння чытаюцца як прысуд. Нават мне, зусім не абазнанаму ў пытаннях медыцыны, становіцца зразумелым, што дыягназ Жэні – вельмі сур'ёзная справа.

### "Мы не прасілі ў Бога здароўя..."

**– Як вы ўспрынялі гэтую хваробу?** – пытаюся ў Ірыны і яе сына. Пасля маленькай паўзы адказвае маці:

– Гэта было вялікае выпрабаванне для нас. Мы, канешне, пачалі звяртацца да лекараў, але найбольшай нашай падтрымкай была малітва і вера. Мы – людзі, якія вераць. Я і Жэня кожную нядзелю ходзім у касцёл. Таму ў такой сітуацыі нельга было без даверу да Бога. Мы Яму даверылі ўсё. Ездзілі ў Сакулку – у Польшчу, дзе знаходзіцца цуд Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Там маліліся. У сябе ў парафіі, у Росі – у Гродзенскай дыяцэзіі падчас рэкалекцый – і прасілі аб малітве усіх знаёмых святароў і блізкіх людзей.

**– Вы прасілі здароўя для Жэні?**

– Не. Здароўя мы не прасілі. У малітве гучала толькі просьба аб выкананні Божай волі. І я, і Жэня разумелі, што Бог лепш ведае, чаго нам найбольш не хапае. Але хачу зазначыць, што такая малітва ў нашай сям'і была заўсёды. Мы і ў Рось ездзілі на рэкалекцыі раней – яшчэ да таго, як даведаліся пра хваробу.

### Цудоўнае аздараўленне

**– Жэня, пытаюся ў хлопца, – а дзе адбылося само аздараўленне?**

– Гэта адбылося ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росі падчас супольнай малітвы з кс. Джонам Башаборам з Уганды, які праводзіў там рэкалекцыі (7-8 чэрвеня 2014г. – заўвага аўтара). У пэўным моманце мяне паклікаў кс. Юрый Кузьміч, які ведаў пра маю праблему, і мы разам з ім падышлі да ксяндза Джона. Святар паклаў мне на галаву рукі і маліўся каля дзвюх хвілін. Падчас малітвы я адчуў, як унутры мяне разліваецца цяпло. Урэшце ён сказаў: "Падзякуй Богу, ты аздароўлены". Але пазней ён дадаў, што хвароба неадступіць раптоўна. На гэта патрэбны час. І сапраўды, праз два дні я быў на абследаванні, якое паказала, што кіста ёсць, але паменшылася. Мы зноў маліліся аб выкананні Божай волі і адначасова слухалі, што скажуць лекары. А яны былі няўмольныя: неабходная аперацыя. Мы паехалі ў Мінск, дзе ў мяне ўжо пачалі браць аналізы. Я разумеў, што гэта падрыхтоўка да аперацыйнага лячэння...

Аповед працягвае спадарыня Ірына: "І тут адзін доктар сказаў: "Неабходна яшчэ раз глянуць на кісту". Падключылі адзін апарат – на маніторы нічога няма. Здымкі нічога не паказваюць. Доктар нават крыху разлаваўся, што, пэўна, сапсаваўся апарат. Падключылі іншы – той таксама сведчыць, што кісты на сэрцы няма. Гэта пры тым, што на яе наяўнасць указвалі нават тэхнічна менш дасканалыя апараты ў Лідзе. А тут найлепшая тэхніка ў сталіцы паказвае адно: захворвання няма".

Сп-ня Ірына паказвае мне яшчэ адзін медыцынскі дакумент. Гэтым разам – з "1-га гарадскога клінічнага шпіталя" ў Мінску з аддзялення ультрагукавой дыягностыкі. Пратакол абследавання на імя пацыента Абрамава Яўгена Вітальевіча ад 25 чэрвеня 2014г. Заключэнне абмяжоўваецца адным сказам: *"Патологических, объемных образований со стороны плевральных полостей не выявлено".*

### Каго слухае Бог?

**– А што на гэта лекары?** – пытаюся.

Распавядае спадарыня Ірына: "Адзін з іх спачатку сказаў: "Я не веру ва ўсе гэтыя штучкі вашых цаліцеляў". Але пазней у яго вырвалася літаральна наступнае: "Калі я ўжо і паверу ў Бога, то хіба толькі цяпер". Дарэчы, нам усё роўна назначылі яшчэ адну сустрэчу для абследавання. Я разумею дактароў. Яны перажываюць за Жэню таксама і хочуць да канца быць ва ўсім упэўненымі.

Узрушаны гісторыяй гэтай пабожнай сям'і пытаюся ў спні Ірыны: "На рэкалекцыі ў Рось і наогул у касцёлы ў Беларусі прыходзяць тысячы людзей. Многія просяць аб здароўі, але Бог аздаравіў менавіта Жэню. Што Вы пра гэта думаеце?" Сп-ня Ірына задуменна адказвае: "Не ведаю, чаму так. Мы маліліся аб выкананні Божай волі ў нашым жыцці. І мы былі гатовыя прыняць гэтую хваробу, калі б такая была Божая воля. Важна ўмець прыняць тое, што дае табе Бог".

**– Сп-ня Ірына, што б Вы хацелі сказаць тым людзям, якія чакаюць ад Бога нейкага цуду?**

–Хачу пажадаць ім, каб максімальна даверыліся Богу, каб хацелі выканаць Яго волю ў сваім жыцці. Тады ніякія выпрабаванні не будуць страшнымі. І, канешне, хачу выказаць вялікую ўдзячнасць усім нашым сябрам, знаёмым, блізкім, хто маліўся за Жэню, хто нам усяляк спачуваў і дапамагаў. Вельмі важная такая людская салідарнасць у бядзе.

Напрыканцы нашай размовы Жэня падзяліўся сваімі планамі на жыццё. У гэтым годзе ён паступіў у Вышэйшую Духоўную Семінарыю ў Гродне і збіраецца стаць святаром. Гэта яго даўняя мара – яшчэ з 9-га класа.

Што ж... Гэта адважны і высакародны ўчынак, на які здольнае толькі чыстае і добрае сэрца.



# Цэлібат – “за” ці “супраць”?

**Агульнавядома, што Папу Францішку журналісты задаюць розныя пытанні. Зусім нядаўна супрацоўнікі СМІ запыталіся ў Папы Рымскага пра будучыню цэлібату* ў Рыма-Каталіцкім Касцёле.**

**“Цэлібат – гэта не дагмат веры, але правіла жыцця”, – сказаў Францішак. Пантыфік дадаў, што ён асабіста вельмі цэніць цэлібат і лічыць, што гэта з’яўляецца “дарам для Касцёла”. Аднак паколькі цэлібат не з’яўляецца дагматам веры, “дзверы заўсёды адчыненыя”. Францішак нагадаў пра тое, што ў Каталіцкім Касцёле ёсць жанатыя святары – ва ўсходніх абрадах.**

**Папа Рымскі выказаўся, што гэта адкрытая тэма, над якой варта дыскутаваць. Пазіцыя Пантыфіка адносна цэлібату ясная: яго адмяняць ніхто не збіраецца, але абмяркоўваць гэтае пытанне цалкам можна. Таму «Каталіцкі Веснік» пацікавіўся ў сваіх чытачоў, што яны думаюць на гэты конт.**

**Ірэна Рубінава:**
– Я перакананая, што цэлібат вельмі каштоўная рэч! Нельга яго адмяняць! Гэта свядомы выбар асаблівых людзей, якія вырашылі ісці за Хрыстом праз усё жыццё і стацца як мага болей падобнымі да Яго. Гэта іх свядомая ахвяра – так, цяжкая, вельмі цяжкая. Але гэта запавет іхняе вернасці Богу. Нездарма Бог на чалавечай сэксуальнасці пабудаваў самы прыгожы інстынкт – інстынкт любові, інстынкт мацярынства, бацькоўства. На гэтым інстынкце трымаецца само існаванне чалавецтва. Але... Азірніцеся, якімі дарамі Духа Святога адораныя нашыя святары! Бог не проста бачыць іхнюю ахвяру, Бог з пашанаю яе прымае і ўзнагароджвае сторацоць! Кожны святар мае столькі дзяцей, колькі аніводзін чалавек не зможа нарадзіць за усё жыццё.

**Максім Радзюш:**
–Людзям, якія прысвяцілі сваё жыццё Богу і служэнню іншым, давялося зрабіць усвядомлены крок – прыняць цэлібат. Маё меркаванне на пытанне аб адмене цэлібату такое: жыццё святароў, законнікаў і законніц патрабуе не толькі малітвы, але і жывых стасункаў з людзьмі, не лічачы штодзённай працы. Для іх добра выконваць сваю асноўную «працу» – гэта прысвяціць ёй сябе цалкам! Сям'я – гэта другі храм, у якім павінна быць ідылія, як і ў асноўным. І ў гэтым выпадку адзін з двух храмаў будзе стаяць на прыступку ніжэй. Можна быць добрым сем'янінам або святаром, а сумяшчаць два ў адным і пры гэтым рабіць усё на 100% – немагчыма!

**Вікторыя Раманчук:**
– Я лічу, што адмены цэлібату не павінна быць. Калі б святар меў сям'ю, то не меў бы магчымасці аддаваць свой час дзецям і моладзі, праводзіць розныя мерапрыемствы, паколькі будзе заняты сямейнымі клопатамі. Пры цэлібаце святар мае вялікую супольную сям'ю, сваіх дзяцей, якія могуць праз яго насычаць сваё духоўнае жыццё. Пры сакраманце сужэнства святар будзе знаходзіцца на адной прыступцы са свецкімі людзьмі.

**Арцём Ткачук:**
– Глядзячы з боку практыкі, можна сказаць, што цэлібат, хутчэй, дапамагае, чым перашкаджае святарам. Як і ў кожнай справе, ёсць свае “за” і “супраць”. Але ў цэлым бачна, што калі святар сапраўды стараецца несці Евангелле людзям, то бясшлюбнасць робіцца добрым інструментам службы Богу. Галоўнае – разглядаць гэта як інструмент, а не як самамэту.

**Эліна Часноўская:**
– Перадусім мне вельмі цікава, што пра цэлібат думае Пан Бог. Часам, здаецца, знаходжу ў Святым Пісанні словы, якія пацвярджаюць, што цэлібат ёсць чымсьці добрым, цнатлівым, а часам, здаецца, бачу доказы, што Пан Бог не мае нічога супраць таго, каб цэлібату не было. Можа, гэта толькі нейкая традыцыя, якой мы вельмі моцна трымаемся? Не ведаю! Для мяне гэта таямніца. Мне здаецца, што ў праваслаўных добра гэтае пытанне вырашана. Бо ёсць тыя, хто служыць Богу і мае жонку, а ёсць тыя, якія захоўваюць цэлібат – існуе магчымасць выбару. Я лічу, што гэта ндрэнна, калі святар можа мець жонку. Пытанне “ці павінен цэлібат быць ці адмяніць яго?” вельмі далікатнае, калі ўлічваць тое, што на працягу вякоў у Касцёле цэлібат меў месца. Тут патрэбна святло Духа Святога. Але, можа, было б і добра ўзяць прыклад з праваслаўных...

**Каментар Вольгі на сайце catholicnews.by:**
– Я понимаю, если тема эта открыта, значит этого хотят сами священники. Нельзя повернуть природу вспять: высушить моря и океаны, заставить погаснуть солнце, убрать звезды с неба и т.д., какие бы нам ни хотелось установить традиции. Также нельзя священнику убить в себе мужчину. Он создан также как и все, и уверена, что испытывает все чувства, присущие мужчинам. И очень несправедливо, что он не может видеть рядом свою любимую, иметь семью, радоваться «плодам любви». Но если такая традиция существует, значит, это кому-то нужно, хотя сомневаюсь, что это нужно самим священникам. Мне кажется, что именно эта традиция «загоняет в угол» некоторых священников, за поведение которых в последние годы пришлось просить прощения высшему духовенству. Это всего лишь мое субъективное мнение. Спасибо за вопрос.

**Каментар Эміліі Байкоўскай з сацсеткі “Аднакласнікі”:**
– Я ніколі не пайду у храм, у якім служыць жанаты ксёндз. Святарства – гэта служэнне і стыль жыцця, а не прафесія. Чалавек, які мае дзяцей, заўсёды будзе клапаціцца пра іх у першую чаргу, такім чалавекам лягчэй маніпуляваць, яму ёсць што траціць у жыцці і яго лягчэй запалохаць. Гэта мы бачым у праваслаўі. Я не змагу даверыцца свецкаму чалавеку, які прошта атрымаў пэўны аб’ём тэалагічных ведаў і ўсё. У ім няма сакральнасці, ахвярнасці. Святар павінен належыць толькі Богу, храму і вернікам. Я люблю Святы Каталіцкі Касцёл, люблю і ганаруся яго святарамі, якія прыносяць у ахвяру Богу ўсё тое, чым так даражаць людзі – сваё асабістае шчасце, сваіх ненароджаных дзяцей, сваю самотнасць і адзіноцтва ў жыцці. Я апускаюся перад імі на калені!!! Я ім веру, я ў іх бачу паслядоўнікаў Збаўцы!

## Вынікі апытання на сайце catholicnews.by

**Якое Ваша меркаванне наконт цэлібату ў Рыма-Каталіцкім Касцёле?**

Павінен застацца для ўсяго духавенства – 39.6%
Трэба цалкам адмяніць (духавенства павінна быць жанатым) – 3.7%
Трэба дазволіць выбіраць цэлібат па жаданні – 55.1%
Іншы адказ (у каментарах) – 1.6%

**Усяго галасоў: 187**

3,7%
39.6%
55,1%
1.6%

# Свята ў Празароках



**У нядзелю, 3 жніўня, вернікі ў Празароках сустракалі біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Для гэтай сустрэчы, нягледзячы на спёку, вернікі разам з пробашчам касцёла ксяндзом Дзмітрыем Рацько выйшлі на скрыжаванне да шашы Полацк – Вільня.

Біскупа чакалі недзе хвілін дваццаць, і кіроўцы аўтамабіляў, якія праязджалі побач, з цікавасцю пазіралі на вялікую колькасць прыгожа апранутых людзей, што трымалі каравай на ручніку і кветкі.

І вось нарэшце пад'язджае біскуп. Вернікі вітаюць яго словамі ўдзячнасці і падносяць каравай. Біскуп Алег цалуе хлеб, прымае ад вернікаў букет кветак, бярэ святую ваду, каб пакрапіць прысутных. "У такую спякоту гэта будзе не лішнім, – жартуе іерарх і дадае: – можа, Пан Бог і з неба крыху пакропіць".

Пасля гэтага вернікі разам з біскупам накіроўваюцца да касцёла, каля якога таксама сабралася шмат людзей.

Касцёл сустракае высокага госця дарожкай, выкладзенай з кветак. Вернікі ў сценах святыні яшчэ раз вітаюць свайго ардынарыя, які распачынае святую Імшу.

У сваім слове да прысутных біскуп нагадаў аб адпустах, якія ёсць у касцёле, распавёў, што першым да гэтага спрычыніўся святы Францішак яшчэ ў пачатку XIII стагоддзя.

Папа Павел VI у 1967 годзе заканадаўча аформіў гэту працэдуру: цяпер кожны вернік два разы на год можа пры выкананні пэўных умоваў атрымаць поўны адпуст. Такімі ўмовамі з'яўляюцца ўдзел у парафіяльнай урачыстасці або ўрачыстасці Маці Божай Анёльскай, шчырая споведзь, малітва ў інтэнцыі Папы.

"Мы павінны памятаць, што жыццё чалавека не абмяжоўваецца зямнымі справамі", – падкрэсліў біскуп і перасцярог вернікаў ад дзвюх крайнасцяў, якія назіраюцца ў некаторых хрысціянаў. Гэта абыякавасць да выратавання сваёй душы – маўляў, хтосьці за мяне памоліцца, а таксама калі да веры прымешваюцца элементы акультызму – спадзяванне на розных бабак-шаптух, экстрасэнсаў, прытрымліванне пэўных забабонаў.

Падчас Імшы біскуп удзяліў сакрамант Канфірмацыі, або хрысціянскай сталасці некальнім дзясяткам вернікаў.

Пасля гэтага ў касцёле адбылася працэсія з дарамі. У якасці дароў былі паднесеныя камень як сімвал граху, стула як знак ачышчэння ад граху, белае палатно, якое сімвалізуе ўваскрашэнне Хрыста, свечка як сімвал Божага святла, Евангелле, букет кветак – знак прыгажосці створанага Богам свету, плады вінаграду як сімвал урадлівасці, а таксама хлеб і віно, што ператвараюцца падчас Эўхарыстыі ў Цела і Кроў Хрыста.

Напрыканцы набажэнства вернікі прайшлі працэсіяй вакол храма, пасля чаго атрымалі блаславенне ад біскупа Найсвяцейшым Сакрамантам.

Але і пасля службы ўдзельнікі фэсту не адпускалі біскупа, было шмат ахвотных з ім сфатаграфавацца на памяць або проста пагутарыць.

Да іерарха падышлі нават госці з Польшчы, якія таксама захацелі з ім сфатаграфавацца. Яны паведамілі біскупу Алегу, што іх карані знаходзяцца тут, у Празароках, на што той па-польску адказаў: *"Што было б на свеце, каб не Празарокі?!"*

І сапраўды, шмат выдатных людзей тут калісьці нарадзілася. Гэта і заснавальнік беларускага тэатра Ігнат Буйніцкі, і мастацтвазнаўца Вячаслаў Ракіцкі…

Шмат выдатных людзей і зараз жыве ў Празароках. Хай мне прабачаць празароцкія парафіяне, што не называю іх па імёнах. Не таму, што не ведаю, а баюся, каб каго, прапусціўшы, не пакрыўдзіць. Таму я цалкам падтрымліваю біскупа Алега Буткевіча: без Празарокаў свет быў бы нашмат бяднейшым.





**Віншуем!**

***Шаноўны наш кс. Крыштаф Мянкіна!***

*Сардэчна Вас віншуем з нагоды імянінаў. Жадаем Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і анёлаахоўніка, а таксама дароў Духа Святога, сілы і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў. А таксама толькі добрых і зычлівых людзей на Вашым святарскім шляху. Дзякуй за вашую паслугу ў нашай парафіі, за шчырую малітву і прапаведванне Божага слова.*

***Аляксандр Сінкевіч – ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі імя Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча***

**Віншуем!**

*Сардэчна віншуем нашага паважанага ксяндза Аляксандра Дуліна з Днём нараджэння. Няхай міласэрны Езус адорвае Вас ласкай здароўя, благаслаўляе ўсе Вашы справы на шляху святарства. Жадаем Вам ласкі Духа Святога, апекі Маці Божай, любові Бога Айца, шчодрасці Езуса Хрыста. Дзякуем за вернасць і адданасць Святому Касцёлу і парафіі, за шчырыя словы навукі, за дабрыню і аптымізм. Плён Вашай працы пакідае добры след у нашых сэрцах.*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста (Падсвілле)***

# Крылы душы

## У Браславе прайшла IX Дыяцэзіяльная сустрэча моладзі Віцебскай дыяцэзіі

**На сустрэчы пад назвай “Крылы душы”, якую праводзілі айцы-марыяне Аляксандр Жарнасек і Міхал Цвячкоўскі, прысутнічалі пераважна маладыя вернікі з Віцебскай дыяцэзіі, але былі і госці з іншых дыяцэзій Беларусі. Агулам на сустрэчу прыехала больш за 200 удзельнікаў.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Праграма спатканняў была даволі насычанай. Моладзь сустракалася на малітву, катэхезы і супольныя набажэнствы. Гурт “Рыбы” зладзіў адмысловы хрысціянскі канцэрт на другі дзень сустрэчы. Нягледзячы на напружаны графік, хлопцы і дзяўчаты з вялікай цікавасцю прымалі ўдзел у спатканнях.

Гаворыць айцец Міхал Цвячкоўскі: “Я ў захапленні ад нашай моладзі. Выразна бачна па іх, што яны хочуць слухаць пра Хрыста і хочуць перажыць сустрэчу са Збаўцам. Я спавядаў многіх на сустрэчы і магу сказаць, што ўзровень перажывання сакраманту пакаяння ў маладых людзей вельмі глыбокі. Адзінае, на што хацелася б звярнуць увагу, – гэта на больш грунтоўную падрыхтоўку моладзі ў парафіях. Думаю, нашым душпастырам варта звярнуць на гэта ўвагу”.



Пра ролю святара ў фармаванні маладой асобы казаў і айцец Аляксандр Жарнасек: “Ад душпастыра шмат што залежыць: і арганізацыя, і асабісты прыклад малітвы, і якасная сакраментальная паслуга ў парафіі. Хацелася б, каб на такія сустрэчы моладзь прыязджала разам са сваімі душпастырамі”, – сказаў святар.

На сустрэчы моладзі айцам-марыянам дапамагала група аніматараў – маладых хлопцаў і дзяўчат, якія рыхтавалі спевы, музычнае суправаджэнне і ладзілі тэатральныя пастаноўкі. Гаворыць аніматар Юлія Коц з Мінска: “Я ўпершыню прымаю ўдзел у сустрэчы моладзі як аніматар. Гэта надзвычай цікава – дапамагаць святару сваім служэннем. Канешне, для гэтага трэба мець неабходныя здольнасці і таленты, напрыклад, іграць на інструменце, спяваць. Але галоўнае, думаю, – гэта, перадусім, самому перажыць сустрэчу з Хрыстом”.

На другі дзень сустрэчы адбылася малітва аб духоўным і фізічным аздараўленні. Айцец Аляксандр напачатку зазначыў: важна разумець, што святар сам па сабе не з'яўляецца лекарам. Душу і цела чалавека лечыць сам Езус. “Паглядзіце на мае рукі, – сказаў а. Аляксандр. – Гэта самыя звычайныя рукі, яны не ўмеюць лячыць. Але кожны з вас можа прасіць аб ласцы аздараўлення праз пасярэдніцтва святара”. Перад Найсвяцейшым Сакрамантам усе ахвотныя падыходзілі да святароў і разам маліліся. Святары ўскладалі рукі на галовы і прасілі аб дары аздараўлення.

Развітваючыся з удзельнікамі сустрэчы, айцец Аляксандр Жарнасек зазначыў: “Памятайце, што вы вяртаецеся ў свет, які будзе варожа ставіцца да вашага светапогляду, да вашага выбару Хрыста. Таму будзьце да гэтага гатовыя і не занядбоўвайце сваіх рэлігійных абавязкаў. Трывайце ў адным духу, хадзіце штонядзелю ў касцёл, чытайце Святое Пісанне і жывіце сакрамантамі”.





### Сардэчна віншую!

*Паважанаму ксяндзу Паўлу Звяжынскаму, які працуе ў Гродне, з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаю ўсіх Божых ласкаў, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, радасці, цярплівасці, добразычлівых людзей.*

*Хай добры Бог блаславіць Вас на душпастырскай працы, а Маці Божая і Анёл-ахоўнік апякуюцца Вамі. Хачу падзякаваць Вашым бацькам за добрае выхаванне сына і пажадаць ім здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

*Я памятаю пра Вас у малітве.*

***З павагай, парафіянка Ліля***

### Богу на хвалу, парафіянам на радасць

*Прыгожым сонечным днём 16 жніўня меў вялікую радасць з'явіцца на гэты свет будучы святар Генадзь Рэйшэль, якога Бог надзяліў цудоўным голасам, вялікай прыгажосцю душы і цела, дабрынёй і сціпласцю, мудрасцю ў духоўнай справе. І з ім працаваць – адна асалода! Ужо другі год у нас ксёндз Генадзь цярпліва, пакорна выконвае волю Хрыста. Спакойна, але ўпэўнена даносіць да нас гамілії, якія хочацца слухаць зноў і зноў.*

*Шаноўны ксёндз Генадзь! З нагоды Дня народзінаў разам з віншаваннем прыміце ад усёй нашай парафіі велізарную ўдзячнасць, любоў, павагу, пашану, падтрымку штодзённай малітвай, добрымі думкамі, словамі за тое, што сваім прыкладам запальваеце агонь любові да Айца Нябеснага ў нашых сэрцах, у сэрцах дзяцей і ўнукаў.*

*Няхай хоры анёлаў будзяць Вас кожную раніцу, а прамяні Божай Міласэрнасці асвячаюць вузкую, але доўгую сцяжынку самаахвярнага жыцця ў добрымдобрым здароўі.*

*Гонар і хвала бацькам нашага любага ў Хрысце Пана ксяндза за тое, што іхняя жыццёвая ніва дала добры плён.*

***Леакадзія Малей, парафія імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Параф'янава***

### Віншуем!

*Ад усяго сэрца віншуем ксяндза Вячаслава Адамовіча з Днём нараджэння, які ён святкаваў 10 жніўня.*

*Жадаем яму моцнага здароўя, душэўнага супакою, вялікага запалу для абвяшчэння слова Божага і шчодрых дароў Духа Святога. Няхай Маці Божая заўсёды атуляе Вас сваёй апекай!*

***З павагай, парафіяне касцёла св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах***



# Как искать совета в Библии?

*«Когда перед человеком стоит вопрос различной степени важности, на который он не знает ответа, я слышала, что можно обратиться к Библии, в надежде, что под водительством Святого Духа можно получить ответ. Помолиться, попросить Бога и найти какую-нибудь фразу в Библии, и это может быть искомый ответ. Я не отрицаю, что Слово Божие иногда открывает нам глаза на какие-то проблемы, но есть и но... Библия может превратиться в своего рода гадательную книгу, где также есть вариант случайности. И вообще: стоит ли доверять какой-нибудь фразе относительно проблемной ситуации? Вопрос: насколько этично так использовать Библию с точки зрения католичества?»*

*Лариса*

**На пытанне адказвае айцец др. Віталь Сярко SchP, г. Шчучын:**

– Паважаная Ларыса! У трэцім раздзеле дагматычнай канстытуцыі пра Божае аб'яўленне „Dei Verbum" чытаем: *Аб'яўленыя Богам праўды, змешчаныя і прадстаўленыя ў Святым Пісанні, былі запісаны пад натхненнем Духа Святога. (...) Належаць [яны] аўтарству Бога і ў такой якасці былі перададзены Касцёлу.* Сапраўды, Біблія – гэта кніга святая. Таму іншая яе назва – Святое Пісанне. Нягледзячы на тое, што аўтарамі кніг Бібліі з'яўляюцца канкрэтныя асобы, без натхнення Духа святога не напісалі б яны ані воднага слова.

У другім Пасланні да Цімафея святы Павел тлумачыў: *Усякае Пісанне натхнёна Богам і карысна для навучання, для пераканвання, для настаўлення, для выхавання ў праведнасці, каб Божы чалавек быў дасканалы, да ўсякай добрай справы гатовы* (2 Цім 3, 16-17).

Сапраўды, існуе сярод вернікаў такая практыка, што пасля малітвы да Духа Святога звяртаюцца яны да Бібліі. Адкрываюць яе ў любым месцы з надзеяй, што прачытаныя імі словы дадуць адказ на іх пытанні або вырашаць іхнія праблемы. Такім чынам, яны пацвярджаюць свой давер Богу, Які прамаўляе да нас праз Святое Пісанне. Канешне ж, можна паступаць такім чынам, але трэба памятаць, што знойдзеныя ў Бібліі словы часам могуць нам дапамагчы. Іншым разам, аднак, не дадуць яны адказу на нашыя пытанні і не вырашаць нашыя праблемы. Ці правільна, калі ў такой сітуацыі чалавек сцвердзіць, што Біблія не можа дапамагчы яму ў клопаце і складаным становішчы?

## Святое Пісанне трэба чытаць з любоўю і пашанай

Святое Пісанне трэба чытаць з любоўю і пашанай. Бога мы не можам прымусіць да таго, каб Ён адказаў на ўсе нашыя пытанні або вырашыў нашыя праблемы тады, калі мы гэтага хочам і такім чынам, як мы сабе жадаем. Хоць з гісторыі духоўнасці ведаем пра такі ўплыў слоў з Бібліі на людзей, які змяняў іх жыццё назаўжды. Напрыклад, святы Бэнэдыкт з Нурсіі меў увайсці ў касцёл і пачуць словы: *Ідзі, прадай усё, што маеш, і раздай убогім і будзеш мець скарб на нябёсах.* (Мк 10, 21). Бэнэдыкт вярнуўся дадому і сапраўды раздаў тым, хто меў патрэбу, маёмасць бацькоў, пакінутую яму пасля іх смерці, і прысвяціў сваё жыццё Богу.

Паважаная Ларыса! Чалавек, які перажывае ў сваім жыцці цяжкую сітуацыю або шукае адказ на складаныя пытанні, можа шукаць дапамогу ў Бібліі, аднак павінен таксама быць падрыхтаваным да таго, што ўсе яго клопаты не вырашыць Біблія. Такі падыход да справы вельмі няправільны, таму што Святое Пісанне – гэта не містыка, а Бог – гэта не чараўнік, які за адпаведную аплату (давер чалавека) абавязаны яму дапамагчы!

## Чытайце Біблію ў радасных і ў сумных сітуацыях Вашага жыцця

Раю ў розных жыццёвых сітуацыях – і радасных, і сумных – звяртацца асаблівым чынам да Кнігі Псальмаў. Напісаў яе кароль Давід. Зрабіў гэта, канешне ж, пад натхненнем Духа Святога. Аднак вялікі ўплыў на тое, што ён пісаў, мелі сітуацыі з яго асабістага жыцця. Таму ў псальмах ёсць і падзяка, і хвала Богу, ёсць там таксама нараканні і незадавальненне, але прысутнічае і радасць, і ўдзячнасць.

Паважаная Ларыса! Чытайце Біблію ў радасных і ў сумных сітуацыях Вашага жыцця, гартайце яе старонкі, каб знайсці адказ на Вашыя пытанні. Аднак не забывайцеся пра тое, што Бог прамаўляе да нас не толькі праз Біблію. Ён дзейнічае ў сваім Касцёле таксама праз сакраманты і іншага чалавека, які можа дапамагчы нам у нашай патрэбе.

# Как относиться к смерти?

*«Хвала Христу! Постоянно сталкиваешься с тем, что люди боятся смерти, избегают даже мысли о ней и что это нормально для психически здорового человека. Очень часто задумывалась: а какое мое к этому отношение? И всегда ответ был один и тот же: что нет страха как такового. Всегда относилась к этому, как чему-то естественному, неизбежному. Может ли такое быть? Или это своего рода самообман, неполное понимание, чем есть смерть. И не ведет ли это к гордыни, ибо, если не боюсь смерти, то автоматически не боюсь Суда Господа, кары за грехи?»*



**На пытанне адказвае дыякан БГКЦ Аляксей Філіпенка:**

– Адзін філософ сказаў: "Пакуль ёсць мы – смерці няма; калі прыйшла смерць – нас няма". Смерць – гэта ў большай ступені біялагічнае паняцце, якое акрэслівае канец функцыянавання жывога арганізма. У сучаснай медыцыне ва ўмовах перасадкі органаў пад смерцю чалавека разумеюць смерць мозга. Таму нічога дзіўнага, што чалавек не можа разважаць непасрэдна пра сваю смерць, бо пакуль ёсць чым разважаць, няма аб чым разважаць, а калі ёсць аб чым разважаць, няма чым. Звычайна чалавек пазнае смерць, спрабуючы паставіць сябе на месца таго, хто памірае, ці ўзгадвае іншых, тых, хто ўжо памёр. Нават існуе навука, якая вывучае смерць, – танаталогія. Насамрэч, людзі больш баяцца пагрозы жыццю, а таксама доўгай і пакутлівай смерці.

Для жывога чалавека смерць – гэта, хутчэй, сінонім канечнасці жыцця. І гэтая канечнасць, разуменне таго, што ўсё калі-небудзь закончыцца, акрэслівае спосаб, як пражыць сваё жыццё. Філосаф Эпікур, цытата якога была прыведзена вышэй, вучыў, што галоўны сэнс чалавечага жыцця – гэта імкнуцца да задавальнення і пазбягаць цярпення. Такі геданізм супярэчыць хрысціянскаму вучэнню пра смерць і жыццё.

Хрыстос вылучае два віды смерці: смерць цела і смерць душы. *"Не бойцеся тых, хто забівае цела, душы ж не могуць забіць; а больш бойцеся таго, хто можа душу і цела загубіць у геене"* (Мф 10; 28). Хрыстос таксама вызначае сэнс канечнага зямнога жыцця, калі кажа: *"Не збірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і ржа знішчаюць і дзе злодзеі падкопваюцца і крадуць. Збірайце сабе скарбы ў небе, дзе ні моль, ні ржа не знішчаюць і дзе злодзеі не падкопваюцца і не крадуць"* (Мф 6; 19-20).

У момант смерці, калі душа застаецца без матэрыяльнага цела і нічога ўжо не звязвае яе з гэтым светам, яна трапляе ў духоўную рэальнасць, дзеля якой была створана несмяротнай па вобразе і падабенстве Бажым. І, сапраўды, становіцца страшна за таго чалавека, які аказаўся не гатовы да сустрэчы з Божай рэальнасцю, які думаў, што проста засне "вечным сном" у магіле і таму можна пражыць жыццё па сваім разуменні, не зважаючы на Божыя запаветы. Такі чалавек будзе падобны да неразумнай дзевы з пустым слоікам, якая стаіць перад зачыненымі дзвярамі шлюбнага піру і чуе голас Гаспадара: *"Не ведаю цябе"* (Мф 25; 12). Смерць душы – гэта вечнае існаванне ў пекле.

Разважанні над смерцю не абавязкова робяць чалавека больш пакорным. Можа і, наадварот, паўстаць бунт супраць Бога: "Калі Бог усемагутны, добры, ЯКІ любіць, чаму ж тады я і іншыя людзі павінны паміраць?" Пакорным чалавека робіць разуменне таго, што ўласнымі сіламі ён не здольны дасягнуць збаўлення, вечнага жыцця, што для збаўлення патрэбна Божая ласка.

Цікава, што Суд Божы не абавязкова павязаны са смерцю. Суд Божы можа адбыцца ў любы момант жыцця. Хрыстос некалькі разоў папярэджвае: *"Чувайце, бо не ведаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе"* (Мф 24; 42).

Страх Божага суда і пакарання за грахі не з'яўляецца ўласцівасцю хрысціянскага вучэння. Хрысціяне пакліканыя любіць Бога як Айца. А ў любові няма страху (1 Ян 4; 18). Хрысціянін усё свае жыццё намагаецца перамагаць грэх і імкнуцца да святасці. *"Цяпер жа, вызваленыя ад граху ды ўчыненыя слугамі Бога, маеце плод ваш – святасць, а на канец – жыццё вечнае"*. (Рым 6; 22).

# Як разабрацца ў абрадах?

*“Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на наступнае пытанне. Калісьці, у дзяцінстве, я быў ахрышчаны праваслаўным святаром Маскоўскага патрыярхату, але на працягу жыцця вельмі цікавіўся гісторыяй сваёй краіны і зрабіў высновы, што гэта царква нашаму народу была прышчэплена сілай і пагрозамі, а сапраўднымі хрысціянамі беларусы (ліцьвіны) сталі дзякуючы дзейнасці ордэнаў базыліян і езуітаў. Потым пашчасціла спаткаць жонку-рыма-каталічку, быў узяты шлюб у рыма-каталіцкім Касцёле, дачку хрысцілі і спавядалі таксама ў касцёле. Сам не адразу, а паступова стаў наведваць Імшу ў рыма-каталіцкім касцёле, спавядацца і прымаць Камунію. Свайму ксяндзу я распавёў, што калісьці быў ахрышчаны праваслаўным святаром. Цяпер я ўвогуле стаў заўзятым католікам, чытаю чытанні падчас Імшы, прымаю актыўны ўдзел у жыцці парафіі. Ці меў я права стаць рыма-католікам? Або я павінен быў звярнуцца да грэка-каталіцкага святара і стаць грэка-католікам? Дзякую”.*
*Віктар*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Паважаны спадар Віктар! Агульнавядома, што на прыналежнасць верніка да той ці іншай хрысціянскай супольнасці ўказвае прыняты сакрамант хросту. З вашага ліста ясна бачна, што Вы былі ахрышчаны праваслаўным святаром, таму належалі да праваслаўнай канфесіі. Аднак пасля працяглых пошукаў ісціны вырашылі стаць католікам. Канон 205 Кодэкса Кананічнага Права акрэслівае, калі чалавек цалкам прыналежыць да Каталіцкага Касцёла: *“У поўнай супольнасці Каталіцкага Касцёла застаюцца тут на зямлі тыя ахрышчаныя, якія ў яго бачным арганізме злучаюцца з Хрыстом сувязямі вызнавання веры, сакрамантаў і касцельнай улады.”* Іншымі словамі, каб называць сябе католікам, трэба публічна вызнаваць каталіцкую веру, прызнаваць і прымаць сакраманты ў касцёле і падпарадкоўвацца распараджэнням прадстаўнікоў касцельнай улады. На сённяшні дзень не існуе нейкага акрэсленага абраду пераходу ў каталіцтва. Дастаткова толькі публічна вызнаць каталіцкую веру і прыняць поўнае вучэнне Касцёла.

Аднак варта заўважыць, што параграф 1001 Статутаў Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій прадугледжвае існаванне ў парафіяльнай канцылярыі кнігі канвертытаў*, куды павінны быць запісаныя дадзеныя новага верніка і дзе мусіць быць яго подпіс. Гэтая юрыдычная працэдура неабходная, між іншым, каб пазней можна было дакументальна пацвердзіць сваю прыналежнасць да Каталіцкага Касцёла.

Што датычыцца другой часткі Вашага пытання, то варта тут працытаваць Дэкрэт Orientalium ecclesiarum Другога Ватыканскага Сабору, які сцвярджае: *“...Усе католікі, і кожны з іх паасобку, і таксама ахрышчаныя ў любым некаталіцкім Касцёле ці супольнасці, якія далучаюцца да поўнай каталіцкай еднасці, павінны ўсюды трымацца свайго абраду, шанаваць яго і паводле магчымасці захоўваць”* (Orientalium ecclesiarum 4). На нарматыўную мову гэтую пастанову Айцоў ІІ Ватыканскага Сабору перакладае канон 35 Кодэкса Канонаў Усходніх Касцёлаў: *“Ахрышчаныя некатолікі, якія прыступаюць да поўнай супольнасці з Каталіцкім Касцёлам, па ўсім свеце пакідаюць пры сабе свой абрад, клапоцяцца пра яго і па меры магчымасці захоўваюць, набываючы прыналежнасць да Касцёла sui iuris гэтага абраду, захоўваючы права звярнуцца да Апостальскай Сталіцы ў асаблівых выпадках асобаў, супольнасцяў і рэгіёнаў”.*

З працытаваных дакументаў выразна бачна, што праваслаўны вернік пры пераходзе на каталіцтва аўтаматычна захоўвае за сабой усходні абрад, нават калі навяртанне адбылося ў рыма-каталіцкай супольнасці. Такім чынам, паважаны Віктар, вы з'яўляецеся вернікам Грэка-Каталіцкай Царквы. Аднак варта памятаць, што, будучы грэка-католікам, Вы маеце поўнае права прыступаць да сакрамантаў у любой рыма-каталіцкай парафіі. Калі ж вы захочаце ўсё-такі перайсці менавіта ў рыма-каталіцкі абрад, то для гэтага Вам неабходна будзе, згодна з канонам 112 п. 1 Кодэкса Кананічнага Права, атрымаць дазвол Апостальскай Сталіцы.

Паважаны спадар Віктар, падсумоўваючы, хачу пажадаць Вам няспыннага ўзрастання ў каталіцкай і апостальскай веры, якую Вы свядома выбралі. Няхай Вашая сувязь з Хрыстовым Касцёлам ніколі не слабее і прыносіць Вам і Вашым блізкім шчасце, радасць і Божую ласку.

*канвертыт – той, хто навяртаецца ў каталіцтва

# Што такое “грыгарыянка”?

*“Хвала Хрысту! У ліпеньскім нумары “Каталіцкага Весніка” я прачытала, што ёсць магчымасць праз рэдакцыю запісаць грыгарыянскую св. Імшу. Патлумачце, калі ласка, што гэта такое? За каго яна адпраўляецца? І ці ўсе святары могуць яе адпраўляць?”*
*Марына*

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты “Каталіцкі Веснік”:**

– Паважаная Марына! Так, сапраўды, праз рэдакцыю можна запісаць грыгарыянскую Імшу. Яе назва паходзіць ад імені Папы Грыгорыя І Вялікага, які наказаў такім чынам маліцца за памерлага бэнэдыктынца па імені Юстус, пры катором знайшлі грошы, якіх ён з прычыны шлюбу ўбоства не павінен быў мець. Паводле традыцыі, на 30-ы дзень гэты манах з'явіўся аднаму з братоў, Капізію, і падзякаваў за міласэрнасць, праз якую ён вызваліўся ад чысца.

Пад уплывам аўта-рытэту Папы Грыгорыя звычай цэлебрацыі трыццаці святых Імшаў за адну памерлую асобу распаўсюдзіўся ў рэлігійнай практыцы Рыма, а ад VIII ст. – па ўсёй Еўропе.

Паводле традыцыі Касцёла грыгарыянская Імша адпраўляецца толькі за аднаго памерлага, таму што падчас яе святар моліцца аб дараванні для памерлай асобы чысцовых пакаранняў. Нельга адпраўляць гэтую Імшу з просьбай аб здароўі ці аб іншых патрэбных ласках для жывых. Грыгарыянская Імша ўяўляе сабой 30 Імшаў, адпраўленых на працягу 30 дзён запар. Адправіць іх можа любы каталіцкі святар.



Але вельмі складана знайсці святара, які б меў дастаткова свабоднага часу, каб маліцца за аднаго чалавека бесперапынна 30 дзён. Таму праз рэдакцыю мы хочам дапамагчы людзям знайсці святароў, якія б маліліся, адпраўляючы грыгарыянскую св. Імшу.

Для гэтага зацікаўленым асобам трэба проста патэлефанаваць па нумары **+375297365307** і паведаміць імя памерлага, а таксама абмеркаваць іншыя акалічнасці (месца адпраўлення Імшы, асобу святара і колькасць ахвяравання). Затым рэдакцыя газеты звяжацца са святаром, які згодзіцца ўзяць на сябе такі абавязак: маліцца 30 дзён у паведамленай інтэнцыі. Ахвярадаўцу будзе выслана пацвярджэнне адпраўленай грыгарыянскай св. Імшы.

Варта, аднак, памятаць, што нельга разумець грыгарыянскую Імшу матэматычна, мауляў, гэтая Імша “мацнейшая” за звычайную. Кожная Імша мае бясконцую вартасць, таму што з'яўляецца той самай Адкупленчай Ахвярай, якую склаў за нас наш Збаўца Езус Хрыстус на крыжы. Але нашае малітоўнае заступніцтва за памерлых, якія, магчыма, знаходзяцца ў чысцы, павінна быць шчодрым і суразмерным той любові, якой мы любілі іх тут, пакуль яны жылі на зямлі.

# Некалькі слоў пра духоўную Камунію

*«Хвала Хрысту! Раскажыце, калі ласка, пра духоўную святую Камунію».*
*Людміла*

**На пытанне адказвае кс. Іван Кароткін, парафія Езуса Міласэрнага ў Віцебску:**

– *“Бярыце і ешце, бо гэта ёсць Цела Маё, якое за вас будзе выдана”* (пар. Мц 26,26). Праз сваю бязмежную любоў Пан Езус назаўсёды застаўся сярод нас у Эўхарыстыі і прагне, каб кожны браў удзел у Яго Ахвяры і прымаў Яго як спажытак, які дае жыццё вечнае.

Аднак гэта не заўсёды магчыма. Прычынай могуць быць адсутнасць святара, вялікая адлегласць да касцёла, хвароба альбо ўнутраны стан душы. Выйсцем з падобных сітуацый з'яўляецца прыняцце духоўнай Камуніі.

Узнікненне практыкі духоўнай Камуніі звязана з фактам усталявання рэдкага прыняцця святой Камуніі пад выглядам Хлеба і Віна. У Сярэднявеччы паўстала традыцыя прыступаць да св. Камуніі толькі на Вялікдзень, чаму спрыяла пастанова IV Латэранскага Сабору. Ад Трыдэнскага сабору пачалі раіць прымаць духоўную Камунію, і найчасцей практыкавалася яна ў манаскіх супольнасцях, але не толькі.

Лічылася, што той, хто бачыў, той спажыў. Молячыся, вернікі прымалі св. Камунію – гэта адбывалася ў той момант, калі святар узносіў Гостыю ўгору, такім чынам паказваючы яе ўсім вернікам. Так нарадзілася практыка “духоўнай Камуніі”, якая паспяхова ўкаранялася ў Касцёле на працягу стагоддзяў і была рэкамендавана святымі настаўнікамі духоўнага жыцця.

Духоўная Камунія – гэта лучнасць чалавека з Езусам Эўхарыстычным, якая рэалізуецца праз прагненне прыняцця сакраментальнай Камуніі. Адначасова гэтае прагненне грунтуецца на веры, ажыўленай праз любоў.

Галоўнымі элементамі духоўнай Камуніі з'яўляюцца:

1. Моцнае прагненне, якое вынікае з жывой веры.

2. Прагненне сакраманту Эўхарыстыі, які прыносіць збаўленне.

2. Прагненне, якое вынікае з любові да Хрыста.



3. Прагненне выразнае і свядомае.

Духоўная Камунія, арыентаваная на сакраментальную Камунію, вядзе да яе і з ёю цесна злучаная. Плёны духоўнай Камуніі з'яўляюцца па сутнасці тымі самымі, што і ў сакраментальнай Камуніі (эўхарыстычнай), г.зн. узрастанне асвячальнай ласкі, любові, чыстасці жыцця і еднасці з Хрыстом.

Прыняцце духоўнай Камуніі з'яўляецца вялікім рэлігійным шансам не толькі для тых людзей, якія па знешніх прычынах не могуць прыступаць да сакраментальнай Камуніі, але таксама для тых католікаў, якія жывуць без касцельнага шлюбу, але шчыра перажываюць праз свае грахі і хочуць паяднацца з Хрыстом.

# Как подготовить детей к школе после летних каникул: советы родителям



**Лето – это, конечно же, время отдыха. И не только для взрослых, которые отправляются в отпуска, у детей тоже долгие каникулы. Но как и всё хорошее, лето имеет свойство заканчиваться. Подходят к концу веселые дни, проведенные на даче с друзьями, в летних лагерях, и самые длительные и долгожданные летние каникулы плавно перетекают в «1 Сентября».**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Совершенно очевидно, что после вольной трехмесячной жизни ребенок не сможет в одночасье перестроиться к школе, поэтому август именно то время, когда пора приводить в порядок режим дня. Следует аккуратно подойти к процессу возвращения в рабочий школьный распорядок жизни.

За долгие летние каникулы ребенок полностью отвыкает от школьного режима, привыкает спать сколько хочется, гулять целыми днями, играть в компьютерные игры, смотреть телевизор с утра до вечера.

Так как же помочь ребенку не оказаться в стрессовой ситуации, когда нужно резко перестроиться на довольно жесткий школьный режим? Как помочь ему адаптироваться и не заболеть от резкой смены режима дня?

**Ответить на эти вопросы помогут вам следующие советы:**

■ Не надо читать нотации, ворчать и насильно усаживать вашего школьника за книжки, заданные на лето! Такой переход от каникулярного «ничегонеделания» к суровым будням может быть для ребенка очень болезненным, и школу он от этого сильнее не полюбит.

■ Понятно, что это звучит скучно и нудно, но если ваш ребенок у бабушки в деревне привык просыпаться ближе к полудню, а освоспать за полночь, то подниматься в определенное время в школу ему будет сложно. В ваших силах сделать «переход на школьное время» более мягким и комфортным. Поэтому следует постепенно сдвигать подъем и отбой на более раннее время. С детьми в возрасте от 7 до 10 лет можно заключите пари: «Спорим, у тебя не получится ложиться спать и вставать каждый день на 10 (15, 20) минут раньше?»

Поощрением может служить бумажная медалька, монетка, отмечаемые в настенном календаре баллы – кому что больше нравится и кого что мотивирует.

Задача ребенка – за определенный срок (5 дней, неделю) набрать как можно больше медалек или баллов, потому что тем, кто постарается, обещан приз!

**. Главное, чтобы ребенок понял: его не таскают «на буксире» по магазинам, а он вместе с родителями САМ выбирает себе что-то к школе, на свой вкус и усмотрение.**

■ Постарайтесь заранее приобрести все необходимое к школе. Форма школьная, форма физкультурная, тетради, канцелярские наборы – старайтесь активно привлекать ребенка к выбору. Здесь вполне допустима небольшая «торговля»: «Давай сначала померяем и купим тебе рубашки в школу, а потом ты сможешь сам выбрать себе пенал, какой понравится».

Девочке можно предоставить полную свободу выбора красивых резиночек и заколок к новому школьному сарафану. Главное, чтобы ребенок понял: его не таскают «на буксире» по магазинам, а он вместе с родителями САМ выбирает себе что-то к школе, на свой вкус и усмотрение. Можно складывать его покупки в отдельный пакет.

■ Стоит также поддерживать психологический настрой – значимость правильной мотивации для ребенка трудно переоценить: «Папа с мамой ходят на работу, а твоя работа – это школа и получение новых знаний. Взрослые люди тоже должны постоянно учиться чему-то новому, чтобы быть успешными в своей профессии. И ты учишься, сейчас как раз закладывается «по кирпичику» твоя будущая профессия».

Чем раньше у ребенка появится цель и представление своего будущего, чем раньше он поймет взаимосвязь между школьными уроками и успехом во взрослой жизни, тем осмысленнее и интереснее будет для него учеба.

■ Вполне вероятно, что оценки в начале четверти вас не порадуют. Но лень и нежелание учиться тут ни при чем. Просто весь организм ребенка еще не настроился на учебный лад. Вместо того чтобы читать нотации, выразите уверенность, что скоро результаты станут лучше, ведь у вашего ребенка такой хороший потенциал.

**Психологи говорят: если ребёнка не гладить каждый день по голове, то у него «засыхает мозг».**

■ Возможно, вы нашли новую студию или кружок по интересам, чтобы занять ребенка в свободное время, и он горит желанием туда ходить. Но пусть он начнет ее посещать по истечении первых 2–3 недель четверти. Какими бы позитивными ни были изменения, они требуют расхода психической энергии на привыкание к ним, а вашему ученику и так сейчас нелегко.

■ Врачи не рекомендуют детям проводить много времени перед компьютером и телевизором, однако если школьник проводит несколько часов в день у компьютера, то договоритесь, что за 2 часа до сна компьютерные игры (особенно агрессивные!) прекращаются. Лучше всего если вся семья соберется за ужином, а после него все вместе поиграют в настольные игры (домино, лото, монополию), посмотрят спокойный фильм или мультфильм.

■ Продолжайте бывать на свежем воздухе. По возможности, сохраняйте прогулки в будние дни после школы или вечером, когда вы приходите домой с работы. Поужинали – и можно 30–40 минут погулять во дворе.

■ Не забывайте про ласку. Психологи говорят: если ребенка не гладить каждый день по голове, то у него «засыхает мозг». Конечно, это образное выражение. Но оно недалеко от истины. В ласке нуждаются не только малыши, но и школьники средних классов, и даже подростки. Доказано, что дети, которых родители часто гладят по голове, обнимают, целуют, более оптимистичны, сообразительны, открыты в общении. Приласкайте своего ребенка, перед сном посидите с ним рядом несколько минут, почитайте книжку, скажите пару добрых слов, пожелайте спокойной ночи – и трудный завтрашний школьный день будет гораздо легче!

Время, которое вы потратите сейчас на своего ребенка, вернется к вам сполна, когда ваш сын или дочь станут успешными, состоявшимися людьми.

Надеемся, что данные советы помогут вам и вашему ребенку пережить этот сложный переходный период, и тогда новый учебный год начнется без разочарований и сожалений о прошедших летних днях.

# ЯК ПРАВІЛЬНА ПА-БЕЛАРУСКУ: “МАЛАДЗЁЖНЫ” ЦІ “МОЛАДЗЕВЫ”?

**Прыметнік са значэннем “які мае адносіны да моладзі” з’яўляецца ў беларускай мове высокачастотным. Гэта значыць, што ён рэгулярна выкарыстоўваецца і ў вусным маўленні, і ў перыядычным друку, і ў мастацкай літаратуры, бо характарызуе сацыяльна значнае паняццe. І тут паўстае пытанне: як жа павінна быць па-беларуску – “маладзёжны” ці “моладзевы”? Бо абодва варыянты сёння выкарыстоўваюцца ў нашай мове.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Форма “маладзёжны” для беларускай мовы штучная, узятая з рускага лексікону. У наса няма суфікса –ёжн-, пры дапамозе каторага магло быць утворанае дадзенае слова ад назоўніка “моладзь”. “Беларуская граматыка” (Ч.1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – Мінск, 1985. – с. 300) рэкамендуе ў падобных выпадках словаўтваральную мадэль “аснова назоўніка плюс суфікс –ев- (-ёв-). Параўнаем: *кісць – кісцевы, лісце – лісцевы, жоўць – жоўцевы* і г.д. Таму названая словаўтваральная мадэль надзвычай прадуктыўная ў сучаснай мове.

Ацэньваючы мэтазгоднасць выкарыстання той ці іншай лексемы, неабходна ведаць пра яе своеасаблівы статус у сучасных сродках масавай інфармацыі. То бок, наколькі часта слова адзначаецца ў друкаваных і электронных медыях. Дык вось прыметнік “моладзевы” імкліва выцясняе калькаваны з рускай мовы варыянт “маладзёжны” і сёння па сутнасці з’яўляецца асноўным. Прывядзём колькі прыкладаў: ***Моладзевая*** *каманда – у фінале чэмпіянату Еўропы* (Загаловак, “Звязда”, 14.10.10); ***Моладзевая*** *сацыяльная служба* (Падзагаловак, “Чырвоная змена”,13.10.10); ***Моладзевы*** *друк сёння – сур’ёзны інструмент для фарміравання ў* ***моладзевым*** *асяроддзі і каштоўнасцяў, і поглядаў* (Загаловак, “Чырвоная змена”, 21.04.11); *Гомельскі гарадскі* ***моладзевы*** *тэатр...* (“Віцебскі праспект”, 15.09.11); *Шэсць кароткаметражных фільмаў знялі выпускнікі* ***Моладзевай*** *кінашколы, што завярышыла сваю працу летам* (“Новы час”, 28.09.12); ***Моладзевы*** *оперны форум у асобах* (Загаловак, “Звязда”, 26.05.12). Як бачым, розныя выданні актыўна выкарыстоўваюць правільны беларускі прыметнік.

Таксама заўважым, што акадэмічны “Слоўнік беларускай мовы” (Мінск, 2012) фіксуе лексему “моладзевы” (с. 402), што фактычна падкрэслівае яе афіцыйны статус у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Таму неабходна і ў пісьмовым, і ў вусным маўленні выкарыстоўваць прыметнік “моладзевы” і пазбягаць ужывання неўласцівага для нашай мовы слова “маладзёжны”.

# Каляндар на верасень

**8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак аб жыцці Багародзіцы і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні. Яно гаворыць, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім, які паходзіў з роду караля Давыда, і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя была народжаная па адмысловым зароку Бога, дадзенага Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў старым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва.

Першыя згадванні аб святце Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час свята было ўключана ў касцельны каляндар.

***У гэты дзень пажадана прыняць удзел у святой Імшы. Але паколькі свята не з'яўляецца абавязковым, 8 верасня можна працаваць.***

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

У гэты дзень праслаўляем Яе імя «Марыя», якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

***На гэты дзень прыпадае толькі ўспамін, таму неабавязкова прысутнічаць на святой Імшы і можна працаваць.***

**14 верасня – Узвышэнне Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Труны Пана, у якой устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы. Адшукала крыж святая Алена, маці імператара Канстанціна. Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі прысутных. У Рыме свята было ўведзена папам Грыгорыем I.

***14 верасня неабавязкова прымаць удзел у святой Імшы, а таксама можна працаваць.***

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць надпрыродная жыццё душ.

***На гэты дзень прыпадае толькі ўспамін, таму неабавязкова прысутнічаць на святой Імшы і можна працаваць.***

**29 верасня – свята святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

***У гэты дзень неабавязкова прымаць удзел у святой Імшы і можна працаваць.***

**Верасень**

| Пан. | Аўт. | Сер. | Чац. | Пят. | Суб. | Нядз. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы), **Аліцыя** (г. Паставы), **Ядвіга Аніськовіч** (в. Новы Пагост), **Юзэфа Афанасенка** (г. Полацк), **Ванда Адамовіч** (г. Глыбокае), **Вацлава Савіцкая** (г. Глыбокае), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Жанна Закрэўская** (г. Мёры), **Валянціна Піваварун** (в. Камаі), **Станіслаў Вышадка** (в. Завараты).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**24 жніўня 2014 г. — Мц 16, 13-20**

Пётр вельмі добра разумее агульныя праўды веры. Ён распазнае, хто такі Езус. Гэта, аднак, не яго заслуга, але дзеянне Бога ў яго сэрцы. Ён выбраны праз Бога і адораны патрэбнымі ласкамі для служэння Касцёлу. Бог выбірае яго, каб на ім , як на скале, пабудаваць свой Касцёл. Езус дае Пятру духоўную ўладу ў Касцёле. Касцёл вядзе да Бога і да неба, бо адораны Езусам шматлікімі духоўнымі кампетэнцыямі.

*– Ці разумею, што Касцёл – гэта не толькі грамадская арганізацыя?*

*– Ці ўмею заўважыць Божае дзеянне і Божую ласку ў маім сэрцы і ў сэрцах іншых людзей?*

*– Ці прызнаю аўтарытэт Касцёла ў справах веры і маральнасці?*

*– Ці разумею, што, паважаючы навучанне Касцёла, паважаю не толькі чалавечую мудрасць, але і дзеянне Святога Духа?*

*– Ці паслухмяны я навучанню Касцёла?*

*– Ці шукаю адказу на свае пытанні і праблемы ў навучанні Касцёла?*

*– Ці карыстаюся крыніцамі жыцця, якімі нас адарыў праз Касцёл Езус?*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці карыстаюся духоўным настаўніцтвам?*

*– Ці вывучаю Божую навуку?*

*– Ці разумею, што павярхоўнае ўспрыманне Божага дзеяння ў Касцёле вядзе да павярхоўных адносін да Пана Бога?*

**31 жніўня 2014 г. — Мц 16, 21-27**

Вучань Езуса, нават адораны найвышэйшым аўтарытэтам, як Святы Пётр, усяго толькі чалавек. Мае сваю пасаду і абавязкі, свае страхі, слабасці, грахі, дробязнасць і прывязанасць да свайго пункту гледжання на жыццё. Езус называе такі падыход думаннем па-людску, а не па-Божаму. Ён заклікае Пятра, які мае цяжкасці з прыняццем Божай волі, каб адкінуў чалавечае думанне і пайшоў за Божай думкай. Каб праз прывязанасць да людскіх думак не перашкаджаў Божай справе. "Ідзі за мной" – гэта значыць, ідзі за маім Божым думаннем.

*– Ці разумею, што Касцёл – святы Божым абяцаннем і грэшны людской слабасцю?*

*– А можа, маю наіўнае разуменне супольнасці Касцёла, не заўважаючы, што яна складваецца з грэшнікаў, якіх перамяняе Бог?*

*– Ці шукаю ў сваіх характарыстыках і разважаннях пра Касцёл Божай думкі, ці толькі па- людску гляджу на справы Касцёла?*

*– Можа, маю ўяўленне пра Касцёл як пра свецкую арганізацыю, якая павінна кіравацца логікай свету?*

*– Ці дазваляю Богу, каб Ён у маім сэрцы пашырыў разуменне Касцёла аж да Божых маштабаў?*

*– А можа, нападаю на Касцёл і хачу пабудаваць яго паводле маштабаў свайго грэшнага жыцця?*

*– Ці ўважліва шукаю Божай думкі і Божай волі ў справах Касцёла?*

*– Ці адкрыты я на таямніцу, да якой мяне запрашае Езус і якая аб'яўляецца ў супольнасці Касцёла?*

**7 верасня 2014 г. — Мц 18, 15-20**

Супольнасць Касцёла абавязана рэагаваць на зло, якое закрадаецца ў яе. Але трэба адрозніваць зло ад грэшніка. Брата любім, а зла пазбягаем, бо яно знішчае любоў. Братэрская заўвага з'яўляецца сродкам барацьбы за ўратаванне грэшнага чалавека. Хочам з любоўю вырваць яго з абдымкаў зла. Супольнасць павінна вучыцца ад міласэрнага Езуса цяжкай справе працягвання рукі грэшнаму чалавеку і адначасоваму пазбяганню ўсялякага зла. Любоў да грэшніка – гэта не любоў да зла. Касцёл – гэта супольнасць, якая адкрывае вучням неба. У супольнасці, сабранай на малітве, асаблівым чынам прысутны Езус.

*– Ці ўмею аддзяліць зло ад грэшніка?*

*– Ці бачу рэальныя праблемы – свае і супольнасці?*

*– А можа, з'яўляюся саўдзельнікам зла?*

*– Ці змагаюся за грэшнікаў?*

*– Ці маю адвагу і патрэбную мудрасць, каб размаўляць з братамі пра цяжкія справы?*

*– А можа, ненавіджу сваіх братоў?*

*– Можа, у сваёй крывадушнасці бачу толькі грахі іншых?*

*– Ці дбаю пра Касцёл як пра праўдзівую Божую супольнасць?*

*– Што сам прыношу ў гэту супольнасць?*

*– Як я іду за Божай воляй і навукай Касцёла?*

*– Ці цаню прысутнасць Бога ў Касцёле?*

*– Ці ўдзельнічаю ў нядзельнай Святой Імшы?*

*– Як я малюся?*

*– Ці памятаю, што на малітве вучняў прысутнічае Бог?*

**14 верасня 2014 г. — Ян 3, 13-17**

Толькі Езус можа давесці нас да неба. Ён выбірае дарогу крыжа. Ён першы ідзе па ёй. Гэта Яго смерць і паслухмянасць Айцу з'яўляецца нашым збаўленнем. Гэта Ён – мост да неба. А крыж – лесвіца, па прыступках якой мы ўзыходзім. Толькі Езус, прыняцце Яго і вера ў Яго – дарога збаўлення. Ён важнейшы за часовае жыццё і ўласныя памкненні. Ён мае ўладу цярпенне, смерць, слабасць перамяніць у перамогу. Ён узвышаны на крыжы, як Валадар на троне.

*– Ці не падманваю сам сябе сваімі ўяўленнямі пра збаўленне, веру і Бога?*

*– Ці разумею, што не з'яўляюся Богам і не магу сам сябе збавіць?*

*– Ці разумею, што без Езуса нічога няма ў маім жыцці?*

*– Ці канчаткова прымаю Езуса як Пана свайго жыцця і як свайго праваднікa да неба?*

*– Ці іду за Ім след у след?*

*– Ці веру, што Ён зможа правесці мяне ад смерці да жыцця, ад грэху да любові?*

*– Ці не празмерна я паглыблены ў свае няшчасці і цярпенні?*

*– Ці змагаюся за тое, каб у цемры ўбачыць Езуса?*

*– Ці гатовы адкінуць усё, каб па драбіне крыжа ісці да Бога?*

*– Ці змагу здагадацца, што Бог хоча, каб я адкінуў, а што пакінуў у сваім жыцці?*

*– Ці пытаюся ў Бога пра Яго волю?*

*– Ці жыву згодна з ёй?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Біскуп Алег Буткевіч асвяціў новы касцёл у Чашніках



**Урачыстая святая Імша адбылася ў Чашніках 5 жніўня напярэдадні свята Перамянення Пана.**

**■ Таццяна Кухта**, *тэкст;*
**Таццяна Смоткіна**, *фота*

На ўрачыстасць сабраліся не толькі мясцовыя парафіяне, але і вернікі з суседніх парафій. Узнёслы і радасны настрой панаваў сярод людзей з нагоды асвячэння новага касцёла, які нарэшце яны атрымалі. Таксама парафіяльны фэст і прыезд біскупа Алега Буткевіча ўдвая павялічвалі радасць гэтага дня.

Першыя зярняты аднаўлення парафіі былі пасеяны яшчэ ксяндзом Мечыславам Янчышыным, цяперашнім пробашчам Глыбоцкай парафіі, які прыехаў у 90-я гады ў Беларусь. Збіраліся спачатку для малітвы ў доме, дзе быў устаноўлены алтар, потым была пабудавана капліца і вось нарэшце – касцёл.

Парафіяне вельмі ўдзячныя ксяндзу Андрэю Бульчаку за пабудову новага касцёла. Таксама вельмі цёпла і з захапленнем яны ўспамінаюць усіх святароў, якія працавалі у іх.

Біскуп Алег Буткевіч адзначыў, што гэта вельмі добра і важна мець святыню, але перш за ўсё неабходна вера, якая павінна ўзмацняцца.

# Рэтра-вечар, танцы і малітва

**Хоць летам мы ўсе пачуваемся вальнейшымі, але ўсё ж ёсць такія рэчы, ад якіх нельга адпачыць. З 23 па 31 ліпеня ў докшыцкім касцёле Святой Тройцы бр. Віталь Юркевіч з дапамогай сясцёр-адараторак Крыві Хрыста з гэтай парафіі праводзіў чарговыя і ўжо, напэўна, шмат каму знаёмыя рэкалекцыі "Аазіс жыцця".**

**■ Вераніка Далжук**

Больш за 60 чалавек разам з аніматарамі з Навапалацка, Слоніма, Маладзечна, Гродна, канешне ж, Докшыц і Докшыцкага раёна разважалі над тэмай рэкалекцый: "Прыміце Духа Святога і будзьце Яго сведкамі". Дапамагалі ў гэтым канферэнцыі, якія распавядалі пра стварэнне свету, грэх, збаўленне, тлумачылі дары Святога Духа.

Штодзённыя малітвы праслаўлення выхоўвалі ў сэрцах моладзі павагу да нашага Айца Нябеснага, а таксама вучылі дзякаваць Яму.

Вельмі цікавым было знаёмства з экуменістычнай малітвай Тэзэ. Спачатку прысутныя даведаліся пра гісторыю гэтай французскай вёскі, яе жыхароў і тых братоў, якія там працавалі і працуюць зараз, а потым памаліліся гэтай глыбокай і крыху незвычайнай для нас малітвай.

Але ж ніхто не забываўся і на тое, што адпачываць трэба і фізічна. У чаргаванні з малітвамі праводзіліся вясёлыя вечары. Адным з самых цікавых быў рэтра-вечар. Прыгожыя, арыгінальныя строі, тэматычная музыка і танцы – усё гэта дапамагала стварыць адпаведную атмасферу. Майстар-класы ў розных кірунках спрыялі развіццю талентаў моладзі. А паход на возера стаў сапраўдным выратаваннем у летнюю спякоту.

Усе гэтыя і шмат іншых заняткаў, якія пакуль пакінем у сакрэце, падводзяць нас да такога вываду: дзякуючы гэтым рэкалекцыям, мы сапраўды пазнаём веліч і моц Духа Святога, бо "такі Дух Святы – не лёгкі ветрык, а сапраўдны ўраган".




## Сердечно поздравляем!

*На протяжении семи лет слово Божье несёт нам всеми уважаемый ксёндз Анджей Бульчак. Мы, прихожане костёла Преображения Господнего города Чашники, очень рады, что такого духовного учителя дал нам Господь Бог. Созидать, укреплять людей духовно и нравственно – основные принципы душпастырской работы нашего дорогого кс. Анджея. Неутомимый проповедник Божьего слова, правды и добра делает всё возможное для возрождения костёла в Чашниках, для возрождения и укрепления веры в людях, пропаганды добра, любви и милосердия.*

*28 июля кс. Анджей отмечает свой день рождения. Сердечно поздравляем, благодарим и низко кланяемся ему за человечность, человеколюбие, уважение, открытость и огромное самопожертвование во имя Святого Дела. Много сил, времени, здоровья, материальных средств затрачено кс. Анджеем на строительство костёла в г. Чашники.*

*От имени всех прихожан, участников поломничества по пути святого Иоанна Павла II, которое состоялось в апреле-мае этого года, благодарим нашего кс. Анджея за планирование и содержательную насыщенность этой поломнической поездки. С Иисусом в сердце мы совершили это поломничество. Выражаем огромную благодарность организатору и руководителю кс. Анджею Бульчеку и посвящаем ему эти строки:*

*Пусть жизнь будет замыслов новых полна,*
*В реальность их все воплощает!*
*Пусть сил и здоровья она придаёт,*
*Приносит всё то, о чём сердце мечтает.*
*Пусть праздники дарят тепло милых встреч,*
*Улыбки, слова поздравлений,*
*Чтоб в памяти долго хотелось сберечь*
*Душевность счастливых мгновений!*

*В Год молитвы мы неустанно молимся за нашего священника, уважаемого всеми кс. Анджея.*

***С искренним уважением и огромной благодарностью, Ирина Торбина от имени прихожан г. Чашники***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5778

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 12.08.2014 г. у 13.15

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02156)2-32-60
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ